ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (130) студзень 2022 год
CATHOLICNEWS.BY



## У Паставах “нарадзіўся” святар-сэрцанін

Стар. 10

## Каляда вачыма святара



Стар. 7

## Ці можна спавядацца праз Скайп?




Стар. 11

## Ad maiorem Dei gloriam



Стар. 3



## З Бразіліі ў Беларусь

Стар. 8



## Гісторыя Піншчыны ў фотаздымках

Стар. 4

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Кошт падпіскі**
**на месяц – 1,5 руб.**
**на 3 мес – 4,5 руб.**
**на 5 мес – 7,5 руб.**

Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”



# Святы Айцец правёў штогадовую сустрэчу з дыпламатамі

**10 студзеня ў Ватыкане Святы Айцец правёў традыцыйную штогадовую сустрэчу з дыпламатычным корпусам, акрэдытаваным пры Апостальскай Сталіцы.**

Упачатку прамовы Папа Францішак падзякаваў дыпламатам за прысутнасць, а таксама нагадаў, што мэта дыпламатыі заключаецца ў тым, каб "дапамагчы адкласці ўбок рознагалоссі, спрыяць згодзе і спазнаць, што перадольваючы зыбучыя пяскі канфліктнасці, можам нанава адкрыць для сябе глыбокае адзінства рэальнасці".

### Вакцынацыя – найбольш рацыянальны спосаб прадухілення каранавірусу

Гаворачы пра сітуацыю, выкліканую пандэміяй каранавірусу, Францішак падкрэсліў важнасць вакцынацыі, заўважаючы, што там, "дзе была праведзена эфектыўная вакцынацыйная кампанія, значна знізілася рызыка цяжкага цячэння хваробы". Папа падкрэсліў, што "клопат пра здароўе з'яўляецца маральным абавязкам", а таксама крытычна выказаўся пра ідэалагізаваны падыход да гэтага пытання, "які часта заснаваны на неабгрунтаваных або недастаткова задакументаваных фактах".

Пандэмія падштурхоўвае нас да пэўнага кшталту "клопату пра рэальнасць", для чаго неабходна глядзець у твар праблеме і прымаць належныя меры для яе вырашэння. "Вакцыны – гэта не магічныя інструменты аздараўлення, але яны, безумоўна, з'яўляюцца разам з іншымі формамі тэрапіі, якія неабходна развіваць, найбольш рацыянальным рашэннем для прадухілення хваробы", – дадаў ён.

### Празрыстасць інфармацыі і рашучасць у барацьбе з COVID-19

Святы Айцец заклікаў да рашучасці ў прыняцці рашэнняў і празрыстасці інфармацыі ў кантэксце барацьбы з каранавірусам, недахоп якіх "стварае разгубленасць, нараджае недавер і пагражае грамадскаму міру, умацоўваючы напружанасць". Гэта прыводзіць да "сацыяльнага рэлятывізму", які раніць згоду і адзінства, – удакладніў ён. Папа заклікаў міжнародную супольнасць да забеспячэння ўсеагульнага доступу да базавых медыцынскіх паслуг і вакцын.

### Мігранты не могуць быць прыладамі палітычнага шантажу

Пантыфік нагадаў пра свае мінулагоднія Апостальскія падарожжы ў Венгрыю і Славакію, пра Дзень рэфлексіі і малітвы ў інтэнцыі Лівана. Папа падкрэсліў вялікае значэнне сустрэчы з мігрантамі на Кіпры і грэцкім востраве Лесбас. Ён выказаў удзячнасць людзям і ўрадам краін, якія намагаюцца прымаць і абараняць мігрантаў, а таксама заклікаў не быць абыякавымі перад абліччам гэтай міграцыйнай праблемы, не адгароджвацца мурамі і калючым дротам. "На жаль, трэба таксама заўважыць, што мігранты часта ператвараюцца ў зброю палітычнага шантажу, пэўнага кшталту "разменную манету", што пазбаўляе людзей годнасці", – дадаў Пантыфік. Папа падзякаваў уладам Італіі за магчымасць прыняць некаторых мігрантаў, якія прыбылі разам з ім з падарожжа на Кіпр і ў Грэцыю. Ён заклікаў да ўзаемаразумення ў Еўрапейскім Саюзе адносна сітуацыі з міграцыяй і барацьбы з наступствамі пандэміі.

### Крызіс мультылатэралізму і ідэалагічная каланізацыя

Перад абліччам крызісаў, выкліканых міграцыяй, каранавірусам і кліматычнымі зменамі Папа нагадаў, што "ніхто не ўратуецца ў адзіночку". Ён заўважыў, што мультылатэральная дыпламатыя перажывае крызіс даверу, бо рашэнні часта прымаюцца без перамоў, у якіх голас маглі б мець усе.

Неэфектыўнасць многіх міжнародных арганізацый абумоўлена змяшчэннем акцэнтаў на ідэалагічныя пытанні, якія па сваёй прыродзе нясуць падзелы і не з'яўляюцца блізка звязанымі з мэтамі гэтых арганізацый. Пантыфік звярнуў увагу на "ідэалагічную каланізацыю", якая не пакідае месца для свабоды слова і адмаўляе ўсялякую тоеснасць.

### Шукаць супольныя рашэнні дзеля дабра ўсіх

Святы Айцец заклікаў шанаваць гістарычныя адрозненні і адчувальнасць народаў. Ён указаў на неабходнасць аб'яднання як адной вялікай сям'і, што, нягледзячы на розныя пункты гледжання, умее знаходзіць агульныя рашэнні дзеля дабра ўсіх. У гэтым кантэксце Папа падкрэсліў важнасць дыялогу і прызнання фундаментальных каштоўнасцей.

"Я асаблівым чынам хацеў бы нагадаць пра права на жыццё ад зачацця да натуральнай смерці і пра права на рэлігійную свабоду", – падкрэсліў ён. Пантыфік заклікаў таксама да міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы абароны навакольнага асяроддзя.

### Трывалыя рашэнні для Украіны і раззбраенне

Папа Францішак адзначыў важнасць дыялогу і братэрства для пераадолення сучасных крызісаў. Гаворачы пра канфлікты ў розных частках свету, ён выказаў асаблівую заклапочанасць напружанасцю на Блізкім Усходзе, а таксама распаўсюджанасцю так званых proxy war – войнаў, якія дзве краіны вядуць паміж сабой на тэрыторыі і рукамі трэціх дзяржаў пад выглядам унутранага канфлікту ў іх.

Папа заахвоціў знайсці "прымальныя і трывалыя рашэнні" для сітуацыі ва Украіне і на Паўднёвым Каўказе, а таксама для прадухілення новых крызісаў на Балканах, асабліва ў Босніі і Герцагавіне. Святы Айцец заклікаў да раззбраення і адмаўлення ад ядзернай зброі, валоданне якой назваў "амаральным".

### Адукацыя і праца – прылады будавання дыялогу і братэрства

Пантыфік нагадаў свой заклік да ўсеагульнага забеспячэння людзей адукацыяй і працай, скіраваны ў пасланні на сёлетні Сусветны дзень міру, які адзначаўся ў Каталіцкім Касцёле 1 студзеня. Ён падкрэсліў, што гэтыя два элементы неад'емныя для будавання культуры дыялогу і братэрства.

"Мы не можам баяцца зрабіць месца для міру ў нашым жыцці, дбаць пра дыялог і братэрства паміж сабой. Мір – гэта дабро, якое "заражае", выходзячы з сэрцаў тых, хто прагне яго і імкнецца жыць ім, дасягаючы ўсяго свету", – сказаў Папа на заканчэнне свайго паслання да дыпламатычнага корпусу, акрэдытаванага пры Апостальскай Сталіцы.

*Аляксандр Панчанка,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*


Папа падчас сустрэчы з дыпламатычным корпусам

# 2021 – цяжкі год для хрысціян ва ўсім свеце

**416 мільёнаў хрысціян з'яўляюцца ахвярамі дыскрымінацыі і пераследу. На гэтую тэму неахвотна пішуць сусветныя СМІ, пакуты вернікаў сустракаюцца палітыкамі з абыякавасцю.**

Папскі фонд "Дапамога Касцёлу ў патрэбе", які на працягу многіх гадоў адсочвае сітуацыю хрысціян ва ўсім свеце, заўважае, што надзвычай цяжкім для паслядоўнікаў Хрыста стаў канец 2021 года.

Апошнія звесткі кажуць пра хвалю антыхрысціянскай дыскрымінацыі ў Індыі, дзе ўлады хочуць абмежаваць дзейнасць хрысціян і ўзяць пад кантроль сродкі, якія яны атрымліваюць з-за мяжы, адсочваючы рахункі манаскіх кангрэгацый і хрысціянскіх фондаў і асацыяцый. Гэта балюча адбілася ў тым ліку на Місіянерках любові Маці Тэрэзы.

У сваю чаргу інфармацыя аб далейшых распраўах над хрысціянамі паступіла ў апошнія дні з М'янмы і Мазамбіка.

"Гэта быў не вельмі добры год для свабоды рэлігіі. Хрысціяне ўсё яшчэ шмат пакутуюць, а свет пра гэта маўчыць", – звярнуў увагу Алесандра Мантэдура з італьянскага офіса "Дапамогі Касцёлу ў патрэбе". Ён падкрэсліў, што паездка Папы Францішка ў Ірак раскрыла драму самага жорсткага пераследу апошняга дзесяцігоддзя, але ісламскі тэрор, які лютуе ў іншых краінах, не згадваецца дагэтуль.

"На жаль, мы назіраем прагрэс радыкалізацыі і распаўсюджвання з'яў, звязаных з джыхадам. На ўсёй Афрыцы, ад поўдня Сахары да Усходняй Афрыкі, існуе прынамсі некалькі дзясяткаў тэрарыстычных арганізацый з амбіцыямі ўсталяваць свой халіфат на гэтых тэрыторыях", – заўважыў супрацоўнік папскага фонду. Ён згадаў Буркіна-Фасо, Нігер, Чад, Малі, Камерун і Нігерыю.

Па словах Мантэдура, напрыклад, у Буркіна-Фасо, дзе да 2015 года было выключна мірнае суіснаванне розных рэлігій і плямён, сітуацыя жахліва пагоршылася. Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, амаль 60% тэрыторыі краіны больш не даступныя для гуманітарнай дапамогі. Сёння тут мільёны ўнутрана перамешчаных асобаў і тых, хто шукае прытулку ў суседніх краінах. Гэтак жа цяжка хрысціянам у Пакістане.



"Аднак гэта сітуацыя не знаходзіць належнага адлюстравання ў СМІ і ў сусветнай палітыцы. Захоўваецца занадта абыякавае стаўленне да падобных трагедый", – з жалем заўважыў супрацоўнік італьянскага офіса "Дапамогі Касцёлу ў патрэбе".

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Ad maiorem Dei gloriam

**У 2021-2022 гг. Таварыства Езуса (ордэн езуітаў) адзначае юбілей, узгадваючы дзве падзеі, звязаныя з жыццём і праслаўленнем свайго заснавальніка – св. Ігнацыя Лаёлы. Пяцьсот гадоў таму, 20 мая 1521 г., ён быў паранены ў бітве, пасля чаго пачалося яго навяртанне да хрысціянскага жыцця, прысвечанага Богу. А крыху больш чым сто гадоў пазней, 12 сакавіка 1522 г., Ігнацый быў кананізаваны (у той жа дзень святымі былі абвешчаныя адзін з першых таварышаў Ігнацыя Францішак Ксаверы, а таксама Тэрэза Авільская, Ізыдор Мадрыдскі і Філіп Нэры). Ігнацыянскі юбілейны год праходзіць пад дэвізам "Убачыць усё па-новаму ў Хрысце". Гэта выдатная магчымасць звярнуцца да духоўнай спадчыны вялікага святога, жыццёвы шлях і вучэнне якога не перастаюць натхняць усё новыя пакаленні хрысціянаў.**

■ **Айцец Віктар Жук SJ**, *пробашч парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску*




### Што азначае дэвіз св. Ігнацыя?

Упершую чаргу ўспомнім і паразважаем над бадай што найбольш вядомай фразай св. Ігнацыя: "Ad maiorem Dei gloriam" – "Дзеля большай хвалы Божай". Кіравацца гэтым прынцыпам імкнуўся былы рыцар пасля таго, як зразумеў, што ніякія зямныя дасягненні нічога не вартыя ў параўнанні з той славай, якая належыць Валадару ўсяго сусвету і да ўдзелу ў якой Бог запрашае і сваіх дзяцей. Ігнацый пазней жадаў перадаць і сваім духоўным сынам, і ўсім вернікам перакананне, што менавіта дзеля гэтай высокай мэты – дзеля Божай хвалы – мы створаныя і пакліканыя дзейнічаць у свеце. Такое памкненне не было чымсьці абсалютна новым у хрысціянскай традыцыі, бо ўжо св. Павел вучыў: "Ці ясце, ці п'еце, ці нешта робіце, усё рабіце на славу Божую" (1 Кар 10, 31). Пан Езус праз сваё пасланніцтва хацеў праславіць Бога Айца (Ян 12, 28; 17, 1) і ведаў, што, выконваючы Яго волю, Ён сам праславіцца (Ян 17, 4-5). Адначасова наш Пан хоча, каб Ягоныя вучні мелі ўдзел у Яго хвале (Ян 17, 24). Што гэта значыць для нас?

На нашых вуснах часта гучыць кароткая, але вельмі змястоўная малітва: "Хвала Айцу і Сыну, і Духу Святому..." У ёй мы вызнаём веліч Пана, якая аб'яўляецца ў прыгажосці Божага стварэння, праз Божы Провід у нашым жыцці і вакол нас, у Божай любові і міласэрнасці, у гісторыі збаўлення (яе ўдзельнікамі з'яўляемся і мы). Першы крок для нас – умець заўважыць і ўсвядоміць усе гэтыя знакі прысутнасці і дзеянні Пана ў створаным свеце і ў нас самых і не забываць праслаўляць Яго. Таксама і ў малітве "Ойча наш" мы кажам: "Свяціся Імя Тваё", і адно са значэнняў гэтага закліку – менавіта жаданне, каб Бог, наш Айцец, быў праслаўлены, каб паўсюдна прызнаваліся Яго дабрыня і веліч. Наша малітва ўсхвалення Бога блізкая да падзякі, але праслаўленне імкнецца да таго, каб вызнаваць веліч Бога проста за тое, што Ён – Бог, што Ён ёсць у нашым жыцці, што мы пазналі Яго, а не за тое, што ад Яго мы атрымліваем нейкія дары і што Ён выконвае нашыя просьбы. Праз абвяшчэнне Божай славы мы ўжо нейкім чынам дакранаемся да яе, удзельнічаем у ёй. Дзякуючы гэтаму адчуваем глыбокую, нават калі і ціхую, радасць.

### Як памножыць Божую хвалу ў свеце?

Але гэта не ўсё. Св. Ігнацый вучыць, што нашым жыццём, нашымі намерамі, словамі і ўчынкамі мы можам спрыяць памнажэнню Божай хвалы ў свеце. Для гэтага не абавязкова рабіць штосьці "рэлігійнае" ў вузкім сэнсе слова, бо Сын Божы, стаўшыся чалавекам, асвяціў усё, што належыць да нашай рэчаіснасці (вядома, калі яно не з'яўляецца сродкам для граху): вучобу і працу, кожнае памкненне і кожную спробу – знешнюю ці ўнутраную, а нават адпачынак і прыемнасці, якія дапамагаюць будаваць Божае Валадарства. Такая перспектыва дапамагае нам усвядоміць больш глыбокае вымярэнне ўсіх нашых дзеянняў і заняткаў, усіх нашых намераў і памкненняў, каб яны былі асвечаныя, прынесеныя Богу. Імкнуцца да памнажэння Божай хвалы – гэты прынцып ачышчае нашыя намеры, нашыя інтэнцыі, бо адну і тую ж рэч можна рабіць з зусім рознымі думкамі і матывацыяй.

Напрыклад, абавязкам бацькоў з'яўляецца выхаванне дзяцей, і гэты абавязак можна выконваць "як мяне ў дзяцінстве вучылі" ці проста "як атрымаецца", а можна шчыра імкнуцца да таго, каб Божая любоў, якая ўмее быць і пяшчотнай, і цвёрдай, прысутнічала заўсёды ў адносінах з дзецьмі, і такім чынам Божая слава праяўлялася ў сям'і. Альбо нейкую непрыемную працу нам часам даводзіцца выконваць таму, што нас прымушаюць, або ў нас няма іншай магчымасці зарабіць грошы. Але калі тое самае будзем рабіць, памятаючы пра запаведзь Езуса несці свой крыж, тады такія высілкі набываюць зусім іншае значэнне: Божая слава аб'явілася не толькі праз дабрачынную дзейнасць Езуса, але ў найвышэйшай меры – праз Яго Крыж, які стаў дарогай да Уваскрасення. Гаворка не пра тое, каб проста пасіўна прымаць любое цярпенне, але каб кіравацца вечнай мудрасцю – Евангеллем Хрыста – у нашым успрыманні жыццёвых сітуацый, у іх ацэнцы і ў выбары наступнага кроку. Божая слава аб'яўляецца кожны раз, калі мы запрашаем Бога ў нашыя рашэнні і жаданні, прыслухоўваемся да Яго слова і выконваем Яго волю настолькі дасканала, наколькі ў нас атрымліваецца. Езус называе тых, хто так чыніць, сваімі сябрамі.

Таму варта памятаць пра дэвіз "дзеля большай хвалы Божай" у нашым штодзённым рахунку сумлення: не для таго, каб ён станавіўся крытэрыем самаабвінавачвання, а хутчэй, каб адкрываў новую глыбіню ў нашых штодзённых занятках. Наш Пан напэўна дасць нам ласку Духа Святога, указваючы, як з Яго дапамогай мы можам уносіць свой сціплы ўклад у справу Божага Валадарства.

# Нечаканы візіт Пантыфіка ў музычную краму

**Святы Айцец наведаў рымскую музычную краму, з уладальнікамі якой ён знаёмы яшчэ з часоў сваіх візітаў у Рым у якасці кардынала.**




11 студзеня ўвечары Папа нечакана выправіўся ў музычную краму Stereosound у цэнтральнай частцы Рыма, дзе прадаюць музычныя дыскі і кружэлкі. Наведваючы старых знаёмых, ён блаславіў памяшканне пасля нядаўняга рамонту. Падчас сваіх візітаў у Рым Хорхэ Берголіа жыў у суседнім з крамай Доме для духавенства.

Раней былі выпадкі, калі Папа Францішак асабіста выпраўляўся ў горад, каб набыць сабе нешта. Аднойчы ён наведаў оптыку, каб памяняць апраўу для акуляраў, у артапедычным салоне Пантыфік набываў абутак. Але на гэты раз гаворка ішла пра сяброўскі візіт.

"Святы Айцец прыехаў на Fiat 500L каля 19.00. Ён правёў у Stereosound каля дзесяці хвілін, размаўляючы з уладальніцай і яе сям'ёй", – паведаміў Матэа Бруні, кіраўнік Залы Друку.

Пасля ад'езду госця ўладальніца крамы ў кароткай заяве для прэсы прызналася, што Папа з'яўляецца іх "даўнім кліентам", а цяперашні візіт стаў пасапраўднаму цудоўным і поўным чалавечнасці жэстам. У падарунак Святы Айцец атрымаў дыскі з класічнай музыкай.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня,*
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# У момант клінічнай смерці жанчына бачыла Марыю

Каталіцкая верніца з санктуарыя Маці Божай Фацімскай у Жодзіне перажыла клінічную смерць: яе сэрца спынялася на пятнаццаць хвілін. Пробашч парафіі айцец Міхаіл Цвячкоўскі ў відэа дае сведчанне з тых слоў, што яму расказала маладая жанчына і шматдзетная маці, з якой усё гэта здарылася. "Калі наступіла клінічная смерць, лекары чвэрць гадзіны змагаліся, каб яе сэрца магло працаваць", – гаворыць святар.

*Каб паглядзець гэтае сведчанне, адсканууйце QR-код сваім смартфонам і перайдзіце па спасылцы.*



# Пінск і Піншчына на фотаздымках а. Яна Вернэра SJ


а. Ян Вернэр SJ (архіў езуітаў у Кракаве)


Святкаванне ўрачыстасці Божага Цела ў Пінску, 30-я гг. ХХ ст.


Пінск. Калегіум і касцёл айцоў езуітаў, 30-я гг. ХХ ст.


Базар у Пінску, 30-я гг. ХХ ст.


Езуіты і іх вучні на чоўнах на р. Струмень (30-я гг. ХХ ст.)

**Гісторыя езуітаў у Пінску распачалася ў 1632 г. Тады там паўстала рэзідэнцыя, а ў 1638 г. – калегіум ордэна. Пасля касацыі ордэна езуітаў у 1773 г. езуіты пакінулі горад. Яны вярнуліся ў Пінск толькі ў 1919 г.**

**■ Пераклад і падрыхтоўка да друку Раісы Зянюк**

31 ліпеня 1919 г. у Пінску зноў адкрылі езуіцкі касцёл. З таго часу езуіты займаліся тут душпастырствам, былі ваеннымі і шпітальнымі капеланамі. З пачатку кастрычніка 1923 г. распачаў дзейнасць езуіцкі калегіум з вышэйшымі класамі для адукацыі езуіцкіх клерыкаў.

У 1937 г. Пінскі калегіум стаў домам навіцыяту Вялікапольска-Мазавецкай правінцыі. Пасля пачатку ІІ Сусветнай вайны пры абстрэле быў знішчаны езуіцкі касцёл. Калегіум таксама перастаў дзейнічаць. Клерыкі выехалі ў Люблін. Да сённяшняга дня ў Пінску захавалася толькі частка езуіцкага калегіума, дзе цяпер размяшчаецца музей. Касцёл езуітаў не захаваўся.

**Фотаздымкі як гістарычная крыніца.** У мінулых нумарах "Каталіцкага Весніка" мы друкавалі пісьмовыя крыніцы – успаміны аднаго са святароў. У найбліжэйшых нумарах прапануем чытачам пазнаёміцца з іншым відам гістарычных матэрыялаў – так званымі візуальнымі крыніцамі. Яны даносяць да нас інфармацыю, закадаваную ў разнастайных выявах і відэа: гэта могуць быць карціны, шаржы, графіка, кіно, відэасюжэты і, канешне ж, фотаздымкі.

**Калекцыя фотаздымкаў.** У архіве езуітаў у Кракаве захоўваюцца дакументальныя матэрыялы па гісторыі ордэна, у тым ліку фатаграфічныя. Частка іх не мае вызначанага аўтарства. Аднак ёсць і тыя, аўтарства якіх вядомае. Так, аўтарам часткі калекцыі – аднаго альбома – з'яўляецца езуіт а. Ян Вернэр. Ён нарадзіўся 24 снежня 1911 г. у Рудзе Слёнскага ваяводства. У ордэн езуітаў уступіў 9 жніўня 1927 г. 2 верасня 1930 г. паступіў у мужчынскую гімназію езуітаў у Пінску, якую скончыў у чэрвені 1933 года і атрымаў атэстат. Святарскае пасвячэнне атрымаў 21 снежня 1940 г. у Новым Сончы. У архіве захоўваецца і яго дзённік за перыяд 1933-1974 гг, аднак асноўную частку гэтага дзённіка займае перыяд 1933-1939 гг., за 1974 г. захаваліся толькі чатыры кароткія запісы.

У гістарычным сэнсе гэты дзённік не вельмі карысны: у ім апісаныя пераважна эмацыйныя і рэлігійныя перажыванні клерыка. Нават такой падзеі, як пачатак ІІ Сусветнай вайны, ён прысвячае толькі два радкі, дзе піша: "1.09.1939, пятніца. Выбухла нямецка-польская вайна. Святы Айцец Пій ХІІ сказаў: "Той, хто хоча вайны – няхай згіне". Акрамя персанальных дакументаў, звязаных з Пінскам (атэстат, дзённік), а. Яну Вернэру належыць альбом фотаздымкаў Пінска 30-х гг. ХХ ст. І менавіта гэты альбом дае нам нашмат больш гістарычнай інфармацыі, чым усе іншыя дакументы а. Вернэра.

Альбом зборны: складаецца як з уласных фотаздымкаў, так і з фотаздымкаў-паштовак, на якіх адлюстраваныя дастаткова вядомыя віды Пінска, іерархаў Пінскай дыяцэзіі (біскупы К. Букраба і З. Лазінскі), а таксама з фотаздымкаў іншых аўтараў. Агулам наяўныя ў альбоме фотаздымкі можна падзяліць на наступныя блокі: гарадскі пейзаж, жыхары Пінска і Піншчыны, штодзённае жыццё езуіцкага калегіума, урачыстасці, персаналіі, фотапейзажы.

Гэтыя фотаздымкі дазваляюць убачыць Пінск у міжваеннае дваццацігоддзе, уявіць, якім было архітэктурнае аблічча горада, міжваенная мода, традыцыі і г.д.

*Больш выяў з альбома а. Яна Вернэра можна ўбачыць на сайце "Каталіцкага Весніка". Адсканаваўце QR-код сваім смартфонам і перайдзіце па спасылцы.*





а. Канэга, яго брат, а. Ян Вернэр і невядомы


Езуіты на караблі "Пяст" на мяжы (30-я гг. ХХ ст.)


Мяжа, 30-я гг. ХХ ст.


Езуіты з пінскага калегіума ля польскага памежнага слупа на р. Случ, 30-я гг. ХХ ст.


Езуіты на плябаніі ў Давыд-Гарадку, 30-я гг. ХХ ст.


Езуіты і выпускнікі пінскай езуіцкай гімназіі, 1932 г.

# Дамінік Аніська. Пяцьдзясят гадоў з дня смерці вядомага рэлігійнага публіцыста

**Пяцьдзясят гадоў таму, 28 снежня 1971 года, у Беларускім Доме ў Лондане, заснаваным айцамі-марыянамі, якія эмігравалі на Захад, памёр Дамінік Аніська. Гэты чалавек быў выбітным беларускім рэлігійным публіцыстам. Усё яго свядомае жыццё прыпала на XX стагоддзе, калі арміі розных дзяржаў змагаліся за зямлю, дзе жылі беларусы, а грамадскія і палітычныя дзеячы – за душу беларуса. А ён увесь гэты час служыў беларускаму народу сваёй рэлігійнай публіцыстыкай.**

■ **Кастусь Шыталь**

Дамінік Аніська нарадзіўся 12 студзеня 1888 года ў вёсцы Слойнікі, што за некалькі кіламетраў ад горада Саколка, які знаходзіцца ў Польшчы каля мяжы з Беларуссю. Многія чытачы, пэўна, чулі пра Саколку з нагоды эўхарыстычнага цуду, які здарыўся там у 2008 годзе: камунікант, што выпадкова зваліўся на падлогу ў касцёле, праз некаторы час набыў выгляд тканкі чалавечага сэрца. Яшчэ можна ўзгадаць, што ў 1654 годзе ў Саколку быў часова перанесены абраз Маці Божай з Будслава, бо айцы-бернардыны ўцяклі туды перад надыходам маскоўскіх войскаў.

> **У канцы XIX – пачатку XX стст. людзі ў ваколіцах Саколкі размаўлялі пераважна па-беларуску.**

З тых мясцін выйшла шмат каталіцкіх святароў, якія прызнавалі сябе беларусамі і ў той ці іншай форме спрыялі беларускаму нацыянальнаму адраджэнню. Праўда, нацыянальная свядомасць была слабая, і праз гэта людзі на Сакольшчыне цягам XX стагоддзя спаланізаваліся. Цяпер ужо там рэдка сустрэнеш тых, хто размаўляе па-беларуску, а яшчэ радзей – тых, хто лічыць сябе беларусам.

Дамінік Аніська быў сынам даволі заможных сялян: ягоныя бацькі Ян і Людвіка мелі 16 гектараў зямлі. Хлопца цягнула да навукі, і пасля сканчэння пачатковай школы ў вёсцы Янаўшчына ён адзін з усёй вёскі працягваў навуку ў гарадской школе ў Саколцы, якую скончыў у 1906 годзе.

Падчас навучання ў школе Дамінік пачаў задумвацца пра сваю нацыянальную прыналежнасць. "Каталікоў называлі "палякамі", а праваслаўных – "рускімі". Але ў школе гэтая тэрміналогія ўжо не была дастатковая. Нават з курса геаграфіі было зразумела, што на свеце жывуць розныя народы. Да якога ж тады я належу? Да польскага хіба што не! Бо нашая мова – зусім іншая", – пісаў Аніська.

Аднойчы ў Гродне ў акне кнігарні Дамінік убачыў зборнік вершаў Францішка Багушэвіча "Дудка беларуская". Прадмова да гэтага зборніка, якая лічыцца маніфестам беларускага адраджэння, са славутым заклікам "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!" зрабіла на Дамініка вялікае ўражанне і дапамагла яму канчаткова вызначыцца з тым, што ён беларус.

Восенню 1907 года Дамінік Аніська паступае на службу ў 102 Вяцкі пяхотны полк у Гродне. Пазней ён успамінаў, што жаданне да вайсковай службы ў яго з'явілася пад уплывам твораў Генрыка Сенкевіча. У войску ён быў да 1909 года. Пасля некаторы час працаваў у гатэлі ў Вільні, дзе пазнаёміўся з рэдакцыяй газеты "Наша Ніва". Калі ў 1913 годзе пачала выходзіць газета "Беларус", якая была першым каталіцкім выданнем на беларускай мове, Дамінік Аніська пачаў пісаць для яе артыкулы.

Падчас І Сусветнай вайны Дамінік Аніська быў прызваны ў расійскае войска. Аднак так сталася, што ў баявых дзеяннях ён ні разу не ўдзельнічаў. Пасля таго, як у Расіі адбылася рэвалюцыя, Аніська вярнуўся ў родную вёску, але ў 1920 годзе яго прызвалі ў польскае войска, дзе ён служыў да 1923 года. Наступныя некалькі гадоў ён працаваў у банку, але потым быў звольнены і вярнуўся ў родную вёску.



Касцёл Святога Антонія ў Саколцы ў часы дзяцінства Дамініка Аніські. Фота 1897 года.

> **Рэлігія і нацыянальная свядомасць былі галоўнымі тэмамі Аніськавай публіцыстыкі.**

Час жыцця ў вёсцы – самы плённы перыяд яго публіцыстычнай дзейнасці. У 1928 годзе ў Вільні ксёндз Адам Станкевіч пачынае выдаваць па-беларуску часопіс "Хрысціянская Думка". Дамінік Аніська адразу пачынае пісаць для гэтага часопіса.

"Быў гэта час нацыянальнага адраджэння, і ў сваіх артыкулах я стараўся рабіць акцэнт на тое, каб нашаму адраджэнню надаць кірунак хрысціянскі", – успамінаў Аніська напрыканцы жыцця.

"Нясведамы нацыянальна чалавек гаворыць: "Як гэта ты можаш лічыць сябе беларусам, калі ты каталік!" Хто так гаворыць, той ня можа адрозніць нацыянальнасці ад рэлігіі, той ня ведае, што палякі ў Каталіцкім Касцёле – гэта малая частачка, што да Каталіцкага Касцёла належыць многа іншых народаў, а з часам належаць будуць усе людзі на зямлі. Так! Вера гэта адно, а нацыянальнасць ці народнасць – зусім другое. Ёсць людзі адной веры, але зусім рознай народнасці. Так, напрыклад, француз – каталік, італьянец – каталік, гішпанец – каталік; усе яны каталіцкай веры, але кожны з іх належыць да іншага народа", – піша Аніська ў "Хрысціянскай Думцы" ў ліпені 1930 года.

Праз многія тэксты Дамініка Аніські праходзіць тэма любові да бліжняга. Найбольш яна была выкладзена ў эсэ "Усё ў міласці", якое друкавалася ў "Хрысціянскай Думцы" ў 1933 годзе і пазней выйшла асобнай брашурай.

"Што ж ёсць такое ў навуцы нашай рэлігіі, што пранікае цэлы дух яе? Які закон так выбітна пануе над усімі іншымі яе навукамі? Гэта – закон міласці! Калі Езус, адзіны наш Вучыцель, навучаў нас міласці, як словам, так і прыкладам, калі Касцёл наш каталіцкі праз усе векі свайго існавання ні чаго іншага нас вучыць, як міласці Бога і міласці бліжняга, калі гэты Касцёл вядзе сваю працу ахвярную пасярод чалавецтва, працу ў духу міласці, – можам тады смела казаць, што рэлігія наша – гэта рэлігія міласці", – піша Дамінік Аніська.

Пісаў Аніська і пра вострую ў даваенны час праблему стаўлення польскай дзяржавы і польскага народа да беларусаў. Бачачы несправядлівасць, ён верыў, што яе можна будзе перамагчы ўзаемнай любоўю і павагай: "Мы, беларусы, адчуваем непрыхільнасць да нас. Але мы ведаем, што гэта астаткі "старога чалавека" (як кажа св. Павал Апостал), каторы глядзіць на свет не вачыма хрысціянскай міласці, а вачыма эгаізму. Можам спадзявацца, што гэтае палажэнне тымчасовае, што здаровы розум, развага, справядлівасць, чалавецтва, а перадусім міласць бліжняга перамогуць", – пісаў Аніська ў лютым 1938 года.

У сакавіку 1938 года, калі ў Еўропе расло міжнароднае напружанне, якое хутка мела выбухнуць вайной, Дамінік Аніська піша: "І хто ж гэты сапсуты свет направіць? Направіць яго Езус Хрыстус! Толькі трэба слухаць, што Ён кажа рабіць. А Ён кажа, каб людзі адны адных любілі, навучае Ён міласьці бліжняга, выплываючай з найвышэйшай міласці да Бога. Людзі, людзі! Калі ня хочаце згінуць у ўзаемнай грызні, адчынеце вашыя сэрцы да міласці братэрскай, а вам і ўсім кругом вас будзе лепей жыць на свеце!.. Для агульнай направы свету патрэбна падтрыманне хрысціянскага светапогляду, хрысціянскай маральнасці".

Калі ў 1939 годзе пачалася ІІ Сусветная вайна, Дамінік Аніська як афіцэр рэзерву быў прызваны ў польскае войска, у частку, якая знаходзілася ў Вільні. Калі 17 верасня савецкае войска ўвайшло ў Польскую Рэспубліку, вайскоўцы адступілі ў Літву. У 1940 годзе Саветы далучылі Літву і вывезлі польскіх вайскоўцаў у глыб СССР. Пасля таго як у 1941 годзе Нямеччына напала на СССР, а польскі эміграцыйны ўрад у Лондане аднавіў дыпламатычныя адносіны з Саветамі, пачалі фармавацца польскія вайсковыя аддзелы пад камандаваннем генерала Уладыслава Андэрса.

Уступіўшы ў армію Андэрса, у 1942 годзе Дамінік Аніська праз Персію трапляе ў Палесціну. Некаторы час ягоны вайсковы аддзел дыслакаваўся ў Ерусаліме. Аніська пісаў, што быў вельмі рады туды трапіць, бо мог агледзець месцы зямнога жыцця Езуса Хрыста. Ён запісаў свае ўражанні ад наведвання Святой Зямлі, якія пасля вайны былі надрукаваныя ў часопісе "Божым Шляхам", каторы выдавалі беларускія грэка-каталіцкія святары на эміграцыі ў Парыжы і Лондане. Пакуль жа быў у Ерусаліме, Дамінік Аніська ўдзельнічаў у выданні польскага часопіса "Tygodnik Katolicki".

У 1947 годзе Аніська трапляе з войскам у Англію, а ў 1949 пасяліўся ў Лондане. Ён жыў пры заснаваным беларускімі святарамі Беларускім Доме. Жыў з вайсковай пенсіі, дапамагаў пры ўтрыманні дома, а таксама час ад часу публікаваў артыкулы ў беларускай і польскай эміграцыйнай прэсе.



Дамінік Аніська. Фота з часопіса "Божым Шляхам", №1, студзень-люты 1972 года.



Айцец Язэп Германовіч, каталіцкі святар і пісьменнік, які адслужыў пахавальную Імшу па Дамініку Аніську. Фота зроблена ў Лондане ў 70-я гады XX стагоддзя.

"Усе мы добра помнім дзядзьку Дамініка: невялікага росту, сінія дабрадушныя вочы, лагодная ўсмешка, далікатнасць і ветлівасць у голасе, скромная вопратка, шчырая без ніякай позы пабожнасць, – вось незабыўныя ўласцівасці Аніські. Гэты навонкі сціплы, ціхі чалавек таіў – быццам той вулкан – у глыбіні сваёй незвычайную сілу духа! Ён яе чэрпаў з найчысцейшай крыніцы – з веры ў Бога, з навукі Хрыста. Ён не быў сынам святара, не трапіў ні ў якую духоўную семінарыю, быў добраахвотнікам-афіцэрам, а кожны напісаны ім артыкул мог бы падпісаць найлепшы святар", – пісаў у пасмяротным успаміне пра яго айцец Язэп Германовіч.

7 студзеня 1972 года пахавальную Імшу перад труной Дамініка Аніські адслужыў на беларускай мове айцец Язэп Германовіч, а казанне прамовіў біскуп Чэслаў Сіповіч. Пахаваны Аніська на могілках святога Панкрата ў Лондане, а на яго надмагіллі зроблены як дэвіз яго жыцця і загаловак адной з галоўных публікацый надпіс: "Усё ў міласці".

# Конкуренция между детьми в семье

**Семья – это своеобразный и сложный мир с определенными правилами, традициями и формами поведения. Все мы знаем, что свой первый опыт общения и взаимодействия со взрослыми ребенок получает в семье. Определенный разлад в уже налаженные отношения между малышом и родителями вносит появление еще одного ребенка (или нескольких детей). Четко выстроенный мир ребенка рушится, в нем появляется масса чувств, одним из которых является конкуренция или соперничество.**

■ **Марина Ткач**, *психолог*



Специалисты, занимающиеся вопросом отношений между детьми в семье, пришли к мнению, что в семьях, где есть от двух и более детей, соперничает около 70%. Конкуренция или соперничество между детьми в семье чаще всего возникает на базе ревности по отношению к родителям. Соперничество между детьми в семье – это ничто иное, как борьба друг с другом за любовь и внимание родителей, за значимую роль в семье. Некоторые дети в большей степени подвержены этому чувству соперничества, другие – в меньшей. На одних оно влияет положительно и помогает развиваться, на других оказывает отрицательное воздействие, вызывая у них чувство неполноценности и развивая низкую самооценку. Поэтому важно понимать, что постепенно конкуренция может перерасти в откровенные конфликты, которые приведут к стрессу не только у детей, но и у родителей. Какие чувства станут преобладать у детей в семье, зависит во многом от родителей. Именно в ваших силах скорректировать их взаимоотношения.

Итак, чтобы попытаться избежать нездоровой конкуренции (соперничества) стоит помнить о следующем.

“Познакомьте” детей еще до рождения младшего ребенка. Может показаться немного странным, но зачастую конкуренция между детьми начинается еще до рождения второго или последующего ребенка. Цель родителей в данный момент – подружить детей еще до того, когда малыш появится на свет. Для старшего ребенка прибавление в семье не должно стать неожиданностью и шокирующей новостью. По возможности развейте страхи малыша, связанные с тем, что с появлением братика/сестрички он будет лишен родительского внимания.

Сделайте старшего ребенка “важным”. Старший ребенок должен чувствовать, что его место в семье никто не занимает, даже несмотря на повышенное внимание к брату/сестре со стороны родителей. Будет хорошо, если у ребенка появится задача помогать родителям с братом или сестрой. Речь не идет о принудительной помощи либо о какой-то тяжелой работе по дому. Чтобы привить ребенку ответственность и в последующем избежать ревности между детьми, достаточно незначительной помощи, но это в свою очередь даст то необходимое ощущение своей “важности” и нужности в семье.

Не возлагайте на ребенка обязанности взрослого. Хочу обратить ваше внимание, что стоит избегать в общении с ребенком таких фраз, как “ты старший, значит должен уступить, отдать, быть умнее и т.д....”. За этими словами скрывается не что иное, как ожидания от ребенка поведения взрослого. Поясню: определенные конфликтные ситуации между детьми возникают на основе того, что они что-то не поделили. Вот тогда и появляются все эти фразы – “ты старший, должен уступить...” Но важно помнить, что со стороны младших детей в данной ситуации – это манипуляция, которой они часто пользуются, зная о родительской лояльности к ним. Поэтому старший ребенок ничего не должен.

Научите детей проявлять заботу друг о друге. Проявление заботы – важное качество для будущей взрослой жизни ваших детей. Помните выражение: “не делай другому того, что не сделал бы себе сам”. Мне кажется, данное изречение – отличная стартовая площадка для того, чтобы учиться заботиться друг о друге.

Одна команда. Введите за правило давать детям задания, требующие тесного “сотрудничества” между ними. Например, накрыть стол к обеду, помочь с уборкой в квартире, уход за домашними животными и т.д. Совместное выполнение таких дел научит детей взаимодействовать и слышать друг друга, приведет к пониманию, что мирное и неконкурентное общение помогает достигать гораздо больших и положительных результатов в любых делах. Случиться подобная слаженность может, конечно, не сразу, но ожидание того стоит.

Семейный совет. Организация семейных советов – отличный метод для гармонизации отношений в многодетных семьях, который рекомендуют многие специалисты-психологи. Соберитесь все вместе и открыто обсуждайте вопросы, которые волнуют не только вас, но и детей. Дайте каждому из них высказать как свое мнение, так и имеющиеся недовольства. А затем можно всем вместе подумать и обсудить, что можно сделать и что исправить.

Установите границы дозволенного. Если есть правила, их нужно соблюдать. Например, в вашей семье запрещено кого-то дразнить, оскорблять, бить. Будет не совсем верно и справедливо, если кто-то из детей за определенную провинность будет наказан, а другой нет.

Право самостоятельно разрешать конфликты. В любом конфликте или ссоре дайте детям шанс самостоятельно прийти к примирению. Вмешиваться стоит тогда, когда ссора несет угрозу здоровью или жизни, или когда принятие решения слишком затянулось. Это один из лучших способов научить их проявлять сочувствие и уважение друг к другу вместо того, чтобы соперничать.

Не сравнивайте детей. Осознанно или нет, но сами родители нередко провоцируют соперничество между детьми, сравнивая их между собой либо с другими детьми. Делать замечания и наказывать детей стоит, исходя из конкретной провинности, а не из того, что один повел себя хуже другого, хуже чем другой ребенок.

Старайтесь уделять каждому ребенку внимание. Каждый ребенок хочет не просто внимания, а особого к себе отношения, свою долю внимания. Здесь хорошо подойдет правило “5 минут”, когда вы уделяете внимание ребенку, слушаете его печали и радости хотя бы пять минут, например, перед сном. Это гораздо лучше, чем привычный вопрос “как дела?” вечером.

Вы как родители должны дать понять своим детям, что любите их одинаково сильно, вне зависимости от их характера и поведения. Тогда и поводов для конкуренции не будет.

В теории все вышеизложенное звучит легко, а вот в жизни… – скажете вы… Я же скажу, что жизнь всегда требует усилий, любых… И если ничего не делать, то ничего и не изменится.

# Пахаванне маці ксяндза Марата Казлоўскага

**8 студзеня адышла па ўзнагароду да Пана святой памяці Ядвіга Гедройць – мама кс. Марата Казлоўскага, пробашча парафіі Святой Ганны ў Мосары, святара Віцебскай дыяцэзіі. Ядвіга Гедройць памерла ва ўзросце 77 гадоў пасля хваробы, ускладненай вірусам COVID-19. 10 студзеня ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе сабраліся святары і сёстры з Віцебскай дыяцэзіі, каб падтрымаць у жалобе сабрата ў святарстве.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст* **Леанід Юрык**, *фота*



Цэлебрацыю пахавальнай св. Імшы і абрады пахавання ў касцёле і на могілках ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч.

“Страта блізкага чалавека – гэта заўсёды боль, але мы перажываем яго з верай у Езуса Уваскрослага. Шукаючы Хрыста ў гэтым свеце, жывучы разам з Ім паяднаным, мы можам разлічваць на ўзнагароду вечнага жыцця, – на самым пачатку літургіі адзначыў біскуп Алег. – З верай спадзяёмся і на вечнае жыццё для Ядвігі, тым больш, што яна – маці святара, тая, якая ахвяравала свайго сына на Божую службу, якая сваёй малітвай і ахвярай жыцця служыла і падтрымлівала свайго сына ў святарскай паслузе”.

На заканчэнне Эўхарыстыі кс. Марат падзякаваў усім, хто апошнія часы падтрымліваў і дапамагаў, маліўся разам, тым, хто быў побач з яго маці ў апошнія дні.

Пахавалі св. п. Ядвігу Гедройць на могілках у Слабодцы.

# Каляда вачыма святара

**Мінулі святы, і ўжо распачалася каляда. “Каталіцкі Веснік” звярнуўся да святароў, каб расказалі цікавыя гісторыі са сваіх душпастырскіх візітаў.**

**Расказвае кс. Ян Рушніцкі:**



– Хацеў бы падзяліцца сваім роздумам, які стаў для мяне адказам на адно з пытанняў, каторае мяне пэўны час турбавала. Памятаю, як калісьці ў дзяцінстве, а потым і больш у сталым узросце ў маёй сям'і мы разам з бацькамі і блізкімі сядалі за святочны вігілійны стол. Пасля таго, як дзяліліся аплаткай, невялікі кавалак гэтага белага хлеба пакідалі, клалі недзе збоку, а затым у канверце яго хавалі ў шафу. Мяне заўсёды турбавала пытанне: навошта так рабіць?

Ужо ў семінарыі на пачатку свайго святарскага служэння я думаў, што не патрэбна пакідаць гэты кавалак, які можа, напрыклад, сапсавацца. Мае бацькі казалі, што трэба, каб ён паляжаў да наступнай вігіліі, тады яго можна з'есці або, напрыклад, аддаць жывёле. Я думаў, што гэта, напэўна, нейкія забабоны.

Калі ж я стаў пробашчам у Каробчыцах, здарылася наступная гісторыя. Калядуючы, я патрапіў да дзвюх старэйшых жанчын. Яны былі вельмі пабожнымі і паказвалі добры прыклад веры. Першым такі ўчынак зрабіла спадарыня Дамініка. Калі дом быў асвечаны і мы памаліліся, яна дастала схаваны кавалачак аплаткі і кажа: “Вы прыйшлі ў мой дом, вы – наш пробашч, а наша парафія – гэта адна вялікая сям'я, таму я хачу падзяліцца з вамі аплаткай”. Таксама і другая спадарыня, Леакадзія, падзялілася са мной такой аплаткай. Гэтым жэстам жанчыны паказалі еднасць са святаром, пашану да святара. Яны хацелі, каб святар адчуваў, што ў іх доме ёсць Бог.

Я падумаў, што гэты кавалачак сапраўды можна пакідаць. Можа, нават у сям'і калісьці здарыцца сварка, тады можна будзе працягнуць да бліжняга гэту аплатку і памірыцца.

Сёлета я ўжо распачаў каляду. І якраз праходзіў каля тых хат, дзе жылі гэтыя пабожныя жанчыны, якія ўжо, на жаль, адышлі. Трохі сумуючы, я ўспомніў пра іх. Падумалася, як моцна яны чакалі святара і як праз гэты кавалак хлеба паказвалі адзінства вернікаў!..

У пэўным значэнні каляда для мяне – працяг жывога Евангелля, калі я магу прыйсці да сваіх парафіян і сустрэцца на іх тэрыторыі, несучы Божае блаславенне.

**Расказвае кс. Павел Рудзьман:**



– На пачатку майго святарства з душпастырскім візітам я пайшоў на хутар, дзе жыла адна бабуля. Яна скардзілася, што ўжо не так шмат моліцца, бо ўжо амаль не бачыць. Я спытаў у яе, як яна моліцца. І калі яна пачала пералічваць, якімі малітвамі яна моліцца, мне стала сорамна як святару. Яна малілася амаль увесь час, прамаўляючы па памяці дзевяць літаній, Евангелле ад Яна, Пампейскую навэнну, Вяночак да Божай Міласэрнасці і шмат іншых малітваў, якіх я не ведаў. Для мяне гэта быў такі цудоўны і непаўторны прыклад, калі гэтая жанчына, не маючы інтэрнэту і сродкаў сувязі, мела найлепшую сувязь з Богам.

Два гады таму назад я прыйшоў у адну ўбогую, сціплую хату, якая знаходзіцца на мяжы Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Дзеці не прыязджалі да маці, бо яна не аддала ім свой дом пад лецішча. Яны адмовіліся ад яе. Часам, калі ёй суседзі не прыносілі хлеба, яна сядзела галодная. Я заўсёды пытаюся ў людзей, калі прыходжу, на якой мове будзем маліцца. Бо ў нас на Піншчыне хтосьці моліцца папольску, хтосьці па-беларуску. Спытаў і ў гэтай жанчыны. Яна адказала, што ёй усё роўна, на якой мове. Я прапанаваў маліцца па-беларуску. Пачынаю казаць: “Ойча наш”… І чую словы: “Pater noster, qui es in caelis…” Аказваецца, яна малілася на лацінскай мове.

Каляда для мяне – гэта момант, калі я магу паглядзець на людзей не з амбоны, а ў іх штодзённасці. Гэта заўсёды размовы, мы стараемся ўваходзіць у сітуацыю людзей, даведваемся, чым яны жывуць. І гэтая размова не пра ўсё на свеце, а толькі пра іх духоўны стан, пра іх адносіны, як яны глядзяць на жыццё, што яны хочуць і дзе мы як святары не дапрацоўваем чагосьці. Заўсёды пасля каляды гэта і шлюб, і хрост. Заўжды знаходзіцца людзі. Гэта такі прыгожы момант: выйсці з касцёла і пайсці да людзей у іх асяроддзе. Як казаў Езус, быць лаўцамі людзей.

**Расказвае кс. Віктар Місевіч:**



– Каляда для мяне – заўсёды вялікая радасць, бо ёсць цудоўная магчымасць несці Хрыста людзям. З імі молішся, асвячаеш памяшканне, але таксама ты можаш літаральна дакрануцца да іх быту, да іх штодзённага жыцця. Падчас душпастырскіх візітаў былі як моманты радасці, так і моманты, якія напаўнялі сумам. Бо вядома, што людзі расказваюць пра сябе розныя рэчы. Часам жаляцца, і ты бядуеш разам з імі.

Вельмі быў уражаны, калі ў адной з хат убачыў замест падлогі проста зямлю. Гэта было, калі я яшчэ быў дыяканам. Было бачна, як розняцца ўмовы жыцця. Асабліва ў вёсках людзі жывуць вельмі сціпла, бедна.

З радасцю ўспамінаю, як я дабіраўся да некаторых вёсак. Аднойчы так замяло снегам, што гурбы былі па пояс. Тады давялося ехаць на лягсасаўскай машыне, і складвалася ўражанне, быццам ты едзеш па іншай планеце. Вакол непраезныя дарогі, замеценыя снегам, а гэты вялікі грузавік едзе, прабіваючыся праз снягі, каб дабрацца ў нейкую вёску, і вязе святара. Яшчэ ў адной парафіі давялося ехаць на санях, запрэжаных канём.

Калі хадзіў па калядзе, заўсёды меў клопат з нізкімі вушакамі ў дзвярах. Я досыць высокі, таму заўсёды трэба было згінаць галаву пры ўваходзе ў дом. І пару раз я забываў пра гэта і ўдараўся. Тады літаральна ўспрымаў выслоўе:“З вачэй зоркі пасыпаліся”.

Аднойчы прыйшоў у пэўную маладую сям'ю, што не надта часта наведвала касцёл. Малады гаспадар, вітаючы мяне, хацеў, напэўна, сказаць “Бацюшка, заходзьце!”, а атрымалася “Баця, захадзі!”

Яшчэ быў адзін смешны момант. Пытаюся ў адной жанчыны, дзе Ваш гаспадар, а яна адказвае: “Ай, у хляве схаваўся”. Мне стала вельмі смешна: чалавек так баіцца святара, што ўцякае з уласнай хаты ў хлеў, каб там перачакаць палахлівую для яго сустрэчу. Хоць на самай справе гэты прыклад напаўняе таксама і сумам. Бо ўсё яшчэ ёсць людзі, якія не разумеюць патрэбы суметнай малітвы і святарскага блаславення.

**Расказвае кс. Павел Федаровіч:**

– Мая першая каляда была, калі я яшчэ быў дыяканам у Мінску. Без прыгодаў не абышлося. Я, напэўна, хвілін дваццаць шукаў патрэбны дом. Нумерацыя неяк дзіўна пазначалася. Тады быў і снег, і мароз, а людзей побач не было. Тады і тэлефона не было. Але неяк з Божай дапамогай усё ж патрапіў па адрасе.

Другая гісторыя з Караганды. Там у асноўным жывуць католікі, пераселеныя з нашых раёнаў. Калядуючы, я прыйшоў да бабулі, якой было каля дзевяноста гадоў. Яна была родам з Украіны. Я ёй сказаў некалькі слоў на ўкраінскай мове, і, як цяпер памятаю, яе слёзы: пачуўшы родную мову, яна расплакалася. Успамінаючы, жанчына расказвала, што калі ёй было каля пяці гадоў, яе вывезлі з Украіны разам з бацькамі. Я слухаў цікавую жыццёвую гісторыю. Яна распавядала, што асабліва малітва і тое, што яны трымаліся разам, ўратавала тады ў вельмі няпростых умовах у стэпах.

У Барысаве аднойчы здарылася смешная сітуацыя. Калі маліліся падчас каляды, кацяня залезла мне пад сутану, а потым выбегла.

Увогуле я вельмі рады, што ёсць такія душпастырскія візіты па ўзоры Хрыста, Які прыходзіў да людзей дахаты. І часта евангелісты апісваюць сустрэчу менавіта ў дамах вернікаў.

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Паўметровую фігуру Хрыста знайшлі ў бервяне зруба ў Валкалаце

**Як паведамляе сайт dokshitsy.by, напярэдадні дня св. Мікалая жыхар аграгарадка Валкалаты (Докшыцкі дэканат, Віцебская дыяцэзія) Павел Кімстач знайшоў у бервяне зруба паўметровую драўляную статуэтку Езуса Хрыста.**

Фігура выдатна захавалася і не мае ніякіх пашкоджанняў, хаця драўніна вакол яе схаванкі была паедзена шашалем. Яшчэ адна адметнасць: бензапіла, з якой працаваў Павел, заглухла якраз тады, калі не палатно павінна было разрэзаць фігурку ў дрэве на дзве часткі.

Алена Несцяронак распавядае гісторыю знаходкі: “Гады два таму ў суседняй вёсцы Віржы праводзілася добраўпарадкаванне некалькіх закінутых сядзібаў. Ахвотным сельвыканкам прапанаваў разабраць трухлявыя пабудовы і выкарыстаць у сваіх мэтах. Тады Павел і перавёз бярвенне старога хлява на свой падворак: з часам меў намер папілаваць яго на дровы. За гэту справу і ўзяўся нядаўна з бензапілой, але ў пэўны момант яна раптоўна заглухла. Праверыў наяўнасць бензіну – дастаткова, свечы – усё нармальна. Завёў пілу зноў, павярнуў бервяно, каб было зручней, – і … раптам з сярэдзіны дрэва выкацілася на снег ярка расфарбаваная драўляная статуэтка – выява Езуса Хрыста – на драўлянай падстаўцы”.

Цяпер маленькая святыня заняла пачэснае месца ў доме гаспадароў.



# З Бразіліі ў Беларусь: размова з удзельніцай руху "Факаляры"



**"Каталіцкі Веснік" паразмаўляў з бразільянкай Алесандрай – удзельніцай руху "Факаляры", якая ўжо каля шасці гадоў жыве ў Беларусі. Сваім сведчаннем жыцця і веры дзяўчына дзеліцца ў сённяшнім нумары.**

**Пра прыезд у Беларусь, мову і людзей**

– Я прыехала ў Беларусь амаль шэсць гадоў таму. Зараз жыву ў Мінску. Па прафесіі я правізар. На працы мяне вельмі душэўна прынялі. Гэта радуе, бо часам бывае паіншаму. Я вывучала рускую мову ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце паўтара года. Потым паступіла ў інтэрнатуру, здала іспыт і магла пачынаць працу ў аптэцы. Рускую мову я ўвесь час вывучаю, бо яна вельмі складаная і багатая. На беларускай мове большасць слоў разумею, але пакуль што не размаўляю. Я лічу, што ваша мова вельмі меладычная і прыгожая. Тое, што мне больш за ўсё падабаецца ў Беларусі, – гэта людзі. Ваша гасціннасць, ваша дабрыня і ваша сэрца мяне вельмі кранулі.

**Пра дзяцінства, веру і сям'ю**

– Я нарадзілася ў дружнай сям'і, у мяне адна сястра і два браты. Паколькі я родам з поўдня Бразіліі, дзе знаходзіцца вялікая канцэнтрацыя нашчадкаў еўрапейскай эміграцыі, у мяне італьянскія, польскія і французскія карані. Мая вера ўзрастала з дзяцінства, бо бацькі мае – вернікі. Мама часта нам чытала Слова Божае, разам таксама маліліся. У нашай парафіі ёсць традыцыя перадаваць на тыдзень паміж суседзямі абраз Марыі ў маленькай драўлянай капліцы. Перад ім мы чыталі малітвы, а маці ставіла свечкі за кожную нашу інтэнцыю і паездку. Яна робіць так і зараз. Я магу сказаць, што мая вера стала больш свядомай пасля кантакту з рухам "Факаляраў", з якім я пазнаёмілася ў 2003 годзе.

Тады мяне запрасілі паехаць на адно мерапрыемства для падлеткаў. Ужо ў аўтобусе я зразумела, што гэтыя людзі паводзяць сабе неяк асабліва. Там я адчувала сябе як родная. Пазней стала зразумела, што яны стараюцца жыць так, як кажа Слова Божае, і любяць тых, хто знаходзіцца побач. Атмасфера, каторую я там адчувала, была асаблівай.



**Пра ўмацненне ў веры**

– Ужо пазней я зразумела, што там, дзе людзі любяць адно аднаго, ёсць Бог. Для мяне быў момант вялікага навяртання, калі я зразумела, што жыць па-хрысціянску не значыць проста ехаць у нядзелю на Імшу, чытаць малітвы і старацца быць добрым. Зразумела таксама і тое, што магу жыць для Бога і ў Богу кожны момант майго дня, застаючыся ў любові. Я ўсвядоміла, што Бог бязмерна мяне любіць і для таго, каб Яго любіць, трэба жыць згодна з Яго воляй. Я таксама наблізілася да сакрамантаў, разумеючы, наколькі гэта важна. Пачала хадзіць часцей у Касцёл. Цяпер я ўдзельнічаю кожны дзень у святой Імшы, малюся на ружанцы і чытаю малітвы раніцай і ўвечары. Яшчэ разважаю над Словам Бога і над духоўнай літаратурай. Гэтая "ежа" для душы дае мне сілу і накіроўвае мае думкі, волю, сэрца і рукі, каб быць кожны раз больш вольнай дачкой Бога. І адпаведна быць шчаслівай.

**Пра рух "Факаляры" і яго дзейнасць**

– Рух "Факаляры" узнік у 1943 годзе ў горадзе Трэнта (Італія) падчас Другой сусветнай вайны. Слова facolare мае італьянскае паходжанне і азначае "сямейны агмень", а ў шырокім значэнні – сям'ю. Рух стаў новай плынню духоўнага і сацыяльнага абнаўлення. А па вызначэнні заснавальніцы руху К'яры Любіч, стаў "новым народам, народжаным Евангеллем".

Цяпер супольнасць налічвае звыш двух мільёнаў удзельнікаў. У аснове руху "Факаляраў" ляжаць мастацтва ўзаемнай любові, дыялог і супольнасць. Мы імкнёмся ва ўсіх дзеяннях праяўляць узаемную любоў і не адштурхоўваць нікога, жыць па Евангеллі і прымяняць яго ў сваім жыцці. Мэта – імкнуцца да міру і еднасці, да ажыццяўлення ў жыцці малітвы Езуса да Айца: "Няхай усе будуць адно". Рух ёсць у 182 краінах, арганізаваны ў 22 геаграфічных рэгіёнах. У Беларусі яго ўдзельнікаў – каля 100 чалавек. Ёсць супольнасці ў Мінску, Ляхавічах, Паставах, Ганцавічах. Некаторыя людзі ўжо больш за дваццаць гадоў гэтым жывуць.

Для нас, факаляраў, галоўная падзея года – "Марыяпаль". Гэта летнія рэкалекцыі для ўсіх удзельнікаў, дзе мы разам адпачываем і паглыбляемся ў духоўнасці. Яшчэ бываюць іншыя сустрэчы і акцыі на працягу года для дзяцей, падлеткаў і моладзі. Кожны месяц сустракаемся разам і дзелімся нашым досведам жыцця паводле Слова Божага, чытаем пэўны новы ўрывак Евангелля з каментарыем, які нас суправаджае на працягу наступнага месяца. Яшчэ на кожны дзень ёсць адна фраза, якую атрымліваем праз сацыяльныя сеткі. Гэта падахвочвае і матывуе жыць згодна са Словам Божым. Слова Жыцця, штомесячны тэкст, перакладаецца прыкладна на дзевяноста моў і трапляе праз СМІ да некалькіх мільёнаў чалавек.

**Пра супольную дарогу да святасці**

– Заўсёды, слухаючы досвед іншых удзельнікаў руху, прыходзіць мужнасць і паяўляюцца новыя ідэі. Калі ж сам дзелішся з іншымі, то гэта дазваляе шанаваць пражытыя падзеі і дапамагае быць дарам для тых, хто побач. Усе гэтыя інструменты дазваляюць ісці да Бога разам па дарозе святасці, падтрымліваючы адно аднаго. Гэта такая асаблівая праява духоўнасці, бо супольнасць мне вельмі дапамагае, фактычна стварае сям'ю, а таксама з'яўляецца выразнікам духоўнасці адзінства: Я – брат – Бог. Мы ідзём да Бога разам з чалавекам, разам з братамі. "Насамрэч мы ідзём да Бога праз чалавека", – тлумачыла К'яра Любіч, заснавальніца руху.

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***









# Пра цуды, веру і Божае Нараджэнне: біскуп Віцебскі Алег Буткевіч узяў удзел у тэлеперадачы "Вечерний Витебск"

**У перадачы таксама прынялі ўдзел вікарый парафіі Святой Барбары Віталь Сапега і парафіяльная моладзь, якая выступіла са спевамі. Перадача выйшла ў эфір напярэдадні Божага Нараджэння, у Вігілію 24 снежня 2021 г.**

Гаворка вядоўцаў з духавенствам ішла пра сутнасць свята і "галоўны Божы цуд", пра тое, як можна растлумачыць цуды, а таксама пра тое, як усведамляць сябе вернікам і не расчараваца ў веры, як прыняць дапамогу Бога. Размаўлялі і пра тое, што змяненне клімату з'яўляецца вынікам дзеянняў чалавека.

Таксама ў перадачы двойчы прагучала выступленне супольнасці моладзі з касцёла Святой Барбары і, безумоўна, віншаванне са святам.

Дарэчы, біскуп Алег Буткевіч ужо не першы раз становіцца госцем эфіру тэлерадыёкампаніі "Віцебск".

*katolik.life*

*Каб паглядзець відэаматэрыял, адсканўйце QR-код сваім смартфонам і перайдзіце па спасылцы.*



## Что такое счастье для священника? История ксендза из небольшого агрогородка Ворняны

Когда как не на Рождество сбываться желаниям? Но есть люди, для которых этот день важнее, чем любой личный праздник. Это служители костёла. Героем проекта "Хорошие люди" сегодня стал священник Виктор Захаревский, настоятель прихода костела св. Георгия (агрогородок Ворняны). В 200 километрах от столицы ему удалось создать совершенно особенную атмосферу для своего прихода.

*Чтобы посмотреть передачу о кс. Викторе Захаревском, отсканируйте QR-код своим смартфоном и перейдите по интерактивной ссылке.*



## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны ў наступных святароў:

**10** лютага – дзень нараджэння адзначае кс. Аляксей Асон (Новы Пагост);

**17** лютага – імяніны адзначае кс. Аляксей Асон *(Новы Пагост)*;

**18** лютага – дзень нараджэння адзначае кс. Вадзім Прасяной SCJ *(Паставы)*;

**25** лютага – дзень нараджэння і імяніны адзначае кс. Віктар Сініцкі SCJ *(Шаркаўшчына)*;

**26** лютага – імяніны адзначае біскуп Віцебскі Алег Буткевіч;

**27** лютага – дзень нараджэння адзначае а. Аляксандр Шаўцоў *(Полацк)*;

**28** лютага – імяніны адзначае кс. Раман Мурзіч.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***

## Рубрыка "Разважаем над Божым словам"

Запрашаем чытачоў "Каталіцкага Весніка" пачытаць рубрыку "Разважаем над Божым словам".

Разважанні над зместам евангельскіх чытанняў кожную нядзелю з'яўляюцца на сайце Catholicnews.by. Аўтар разважанняў – ксёндз-канонік Віктар Місевіч, галоўны рэдактар газеты "Каталіцкі Веснік".



**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

# Каталіцкая тапаніміка

**У Беларусі няшмат каталіцкіх, хрысціянскіх тапонімаў, але часам усё ж сустракаюцца. Прапануем Вашай увазе тэст, у якім неабходна знайсці правільныя адказы.**

**1 У Мінску ёсць вуліца, якая называецца...**




**А.** Кальварыйская
**Б.** Сінайская
**В.** Табарыйская

**2 Іменем якога каталіцкага паэта-святара названа вуліца ў горадзе Астравец?**




**А.** Андрэя Зязюлі
**Б.** Казіміра Сваяка
**В.** Вінцука Адважнага

**3 У якой мясцовасці ёсць вуліца Янкі Быліны, каталіцкага святара і паэта?**



**А.** Астравец
**Б.** Ашмяны
**В.** Валожын

**4 У якім горадзе ёсць вуліца Казіміра Свёнтэка?**



**А.** У Пінску
**Б.** У Брэсце
**В.** У Баранавічах

**5 Велікодная і Вербная вуліцы ёсць у...**



**А.** Магілёве
**Б.** Маладзечне
**В.** Мазыры

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

**6 У Гродне і Оршы ёсць аднайменная вуліца, утвораная ад назвы каталіцкага манаскага ордэна. Як яна называецца?**



**А.** Дамініканская
**Б.** Францысканская
**В.** Салезіянская

**7 Якая з пералічаных назваў ёсць у Гальшанах?**



**А.** Вуліца Касцёльная
**Б.** Вуліца Святарская
**В.** Завулак Кляштарны

**8 У Лідскім раёне ёсць мясцовасць пад назвай...**



**А.** Біскупцы
**Б.** Дыяканцы
**В.** Ксяндзоўцы

**9 У Беларусі шмат вёсак з коранем...**



**А.** "Плябан" (Плябанішкі, Плябанаўцы)
**Б.** "Святар" (Святарышкі, Святараўцы)
**В.** "Касцёл" (Касцёлаўцы, Касцёлцы)

**10 Касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў вёсцы Параф'янава, што ў Докшыцкім раёне, знаходзіцца на вуліцы Касцёльнай...**



**А.** Так
**Б.** Не

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# У Паставах "нарадзіўся" святар-сэрцанін

**30 снежня 2021 года ў касцёле св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Паставах адбылася значная падзея – "нарадзіўся" святар. Сакрамант пасвячэння другой ступені Валерыю Пупкевічу ўдзяліў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч падчас урачыстай святой Імшы.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Напярэдадні, 29 снежня падчас парафіяльнай Імшы а 18 гадзіне, дыякан урачыста вызнаў сваю веру і прагненне служэння Богу і людзям.

Новапрэзбітар Валерый Пупкевіч нарадзіўся 31 жніўня 1995 года ў Паставах. Паходзіць з мясцовай парафіі св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. Пасля заканчэння сярэдняй школы, адчуўшы голас паклікання, уступіў у Супольнасць святароў Найсвяцейшага Сэрца Езуса (Сэрцане), маючы падрыхтоўчы год у супольнасцях Ляхавіч і Мазыра. Пасля семінарыйнай фармацыі атрымаў ступень магістра тэалогіі і прыняў дыяканскае пасвячэнне ў Стадніках (Польшча). Затым нёс служэнне ў сэрцанскай парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне (Вішнявец).

На пасвячэнні прысутнічалі святары з Віцебскай і Гродзенскай дыяцэзій, настаўнікі і выхаванцы новапрэзбітара, сябры і родныя. Шматлікія святары-сабраты і вернікі з-за мяжы і не толькі маглі духоўна далучыцца да малітвы з дапамогаю жывой трансляцыі праз інтэрнэт.

"Трываем у радасці Божага Нараджэння. І тут, у парафіяльнай супольнасці ў Паставах, гэтая радасць павялічваецца сёння яшчэ адным нараджэннем – "нараджэннем" святара. Дзякуем Богу за чарговы дар паклікання, які сёння ёсць вельмі каштоўным, бо заўсёды застаюцца актуальнымі словы Езуса: "Жніво сапраўды вялікае, а работнікаў мала, таму прасіце Гаспадара жніва, каб паслаў работнікаў на жніво сваё". Сёння яшчэ адно маладое сэрца адказала "так!" на Божы заклік", – прамовіў біскуп Алег на самым пачатку ўрачыстай Літургіі.

Дыякан Валерый пацвердзіў сваю прысутнасць, пасля чаго настаяцель супольнасці сэрцанаў у Беларусі кс. Ян Этэль звярнуўся да Пастыра дыяцэзіі з просьбай аб пасвячэнні новага святара.

Сваё казанне біскуп Алег распачаў з развагі над прыналежнасцю да Хрыстовага святарства. Бог дае розныя пакліканні чалавеку. У Езусе Хрысце кожны атрымлівае сваё асаблівае заданне ў Ягоным Касцёле. І такое ж званне мае святарская паслуга. Біскупы і святары працягваюць далей Місію святарства, якая складаецца з трох кірункаў:

- навучанне – "Ідзіце і абвяшчайце па ўсім свеце";
- асвячэнне – "Бярыце і ешце, гэта Цела маё. Бярыце і піце, гэта Кроў мая" – сакраманты, знакі Божай ласкі, якія дапамагаюць на шляху;
- кіраванне – адказнасць за супольнасць Хрыстовага Касцёла.



Далей іерарх падзяляўся разважаннем пра шчасце на дарозе служэння Касцёлу, ці то жывучы ў сямейным жыцці, ці будучы святаром.

Пасля гаміліі ардынарый дыяцэзіі звярнуўся да кандыдата ў пасвячэнне з пытаннем, ці гатовы ён прыняць сакрамант святарства. Калі дыякан Валерый даў станоўчы адказ, распачаўся абрад пасвячэння. Кандыдат лёг крыжам перад алтаром, а вернікі разам са святарамі маліліся Літаніяй да Усіх Святых.

Наступнай часткай стаў абрад ускладання рук: спачатку біскуп Алег, потым усе прысутныя святары. Праходзіў абрад у поўнай цішыні, што надавала гэтаму асаблівую ўрачыстасць. Затым адбылася кансэкрацыйная малітва, пасля чаго ўжо кс. Валерый апрануў святарскае адзенне. Далей адбылося намашчэнне рук новапрэзбітара і прывітанне знакам супакою.

Напрыканцы Імшы новавысвечаны святар падзякаваў Найсвяцейшаму Сэрцу Езуса за гэты дар, які сёння атрымаў. Словы ўдзячнасці прагучалі ў адрас біскупа Алега Буткевіча, семінарыйных выкладчыкаў і ўсіх, хто дапамагаў яму на шляху да святарства.

# У Мёрах свята адзначылі канцэртам дзяцей і моладзі

**26 снежня дзеці і моладзь Мёрскай парафіі пад кіраўніцтвам Яўгеніі Баговіч зладзілі невялікі святочны канцэрт, паведамляе kascelmery.by. Юныя таленты сваім выкананнем узрушылі сэрцы прысутных і падарылі прыемны святочны настрой.**

Адзначаць свята Святой Сям'і калядным канцэртам у парафіі стала ўжо добрай традыцыяй. Пасля Імшы дзеці і моладзь выканалі песні на беларускай і польскай мовах. Музычнае суправаджэнне спеваў было не толькі пад гітару і клавішныя, але таксама і пад ксілафон і цымбалы.

Пасля выступлення пробашч парафіі ксёндз Андрэй Кулік падзякаваў удзельнікам канцэрту за цудоўныя спевы і станоўчыя эмоцыі і ўручыў ім салодкія падарункі. Асаблівыя словы ўдзячнасці прагучалі на адрас Яўгеніі Баговіч за яе плённую і самаадданую працу з дзіцячым і дарослым хорам.

Падарункі ад дабрачыннай арганізацыі "Caritas" Віцебскай дыяцэзіі атрымалі таксама дзеці, якія хадзілі на Рараты, і ўсе дзеці, якія былі ў святыні.




# 10 СОВЕТОВ ПАПЫ ФРАНЦИСКА НА КАЖДЫЙ ДЕНЬ

**1. НЕ СПЛЕТНИЧАЙТЕ**
(христианин, прежде чем начать сплетничать, должен прикусить себе язык!)

**2. ВОЗЬМИТЕ В ПРИВЫЧКУ ПРОСИТЬ ГОСПОДА**
(Он подскажет, что для тебя лучше, но ты должен слушать и действовать)

**3. БУДЬТЕ ОТКРЫТЫМИ ДЛЯ НУЖДАЮЩИХСЯ**
(используйте любые возможности для благотворительности)

**4. ВЫБИРАЙТЕ БОЛЕЕ СКРОМНЫЕ ПОКУПКИ**
(искорените дух потребительства и материализма)

**5. НАЙДИТЕ ВРЕМЯ ДЛЯ БЛИЖНИХ**
(не оправдывайте себя занятостью)

**6. НЕ СУДИТЕ ДРУГИХ**
(проявляйте терпимость и понимание)

**7. ПРИМИРИТЕ ВРАЖДУЮЩИХ**
(будьте людьми диалога и встречи)

**8. НЕ БОЙТЕСЬ БРАТЬ НА СЕБЯ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА**
(принимая ответственные решения - доверяйте Господу целиком)

**9. ДОЕДАЙТЕ**
(не выбрасывайте еду и делитесь с голодными)

**10. БУДЬТЕ СЧАСТЛИВЫ!**
(радость - это знак христианина: в страданиях, испытаниях и даже во время преследований)





# Ці можна спавядацца праз Скайп?

**“Хвала Хрысту! Я хацеў бы задаць пытанне святару. Я працую ў іншай краіне ўжо каля двух месяцаў. Святую Імшу слухаю і малюся праз Радыё Марыя. Адкажыце, калі ласка, ці можна мне спавядацца ў святара праз Скайп ці іншыя сеткі? На жаль, я не ведаю мовы краіны, у якой цяпер працую”.**

*На пытанне адказвае* **кс. Аляксей Ляшко,** *Афіцыял Біскупскага Суда Віцебскай дыяцэзіі.*



— Для адказу на Ваша пытанне мы звернемся да Кодэкса Кананічнага Права Каталіцкага Касцёла. Канон 959 пастанаўляе: “У сакраманце пакаяння вернікі, вызнаючы грахі законнаму служыцелю, шкадуюць аб іх і, маючы намер выправіцца праз адпушчэнне грахоў, дадзенага тым жа служыцелем, атрымліваюць ад Бога прабачэнне грахоў, учыненых пасля хрышчэння, і ў той жа час прымiраюцца з Касцёлам, якому яны сваімі грахамі нанеслі раны”. Пазней, у 964 каноне гаворыцца, што належным месцам для споведзі з'яўляецца касцёл ці араторый (капліца) і што не варта прымаць споведзі па-за канфесіяналам (спаведніцай) без наяўнасці справядлівай прычыны. Таксама Кодэкс устанаўлівае, што служыцелем сакраманту пакаяння з'яўляецца толькі святар.

Паводле сказанага вышэй можна пераканацца, што ў звычайных умовах сакрамант споведзі павінен адбывацца ў канфесіянале выключна ў асабістай прысутнасці святара, які мае паўнамоцтва слухаць споведзь, і пры асабістай прысутнасці пенітэнта (таго, хто спавядаецца).

Сярод умоваў дзейснасці сакрамантальнага адпушчэння грахоў ёсць і такая: каб яно было “in praesentem directa”, гэта значыць, дадзена ў непасрэднай прысутнасці пенітэнта. Касцёл навучае, што дзейнасць сакраманту складаецца з розных элементаў або знакаў. “Сакрамант – гэта бачны знак нябачнай ласкі, устаноўлены для нашага апраўдання” (св. Бернард). Калі, напрыклад, хтосьці адсутнічае, то сакрамантальная цэлебрацыя таксама не існуе. Словы святара “я адпускаю табе грахі” падкрэсліваюць фізічную прысутнасць асобы, якая ў гэтых грахах раскайваецца.

Ужо ў 1602 годзе Папа Клімент VIII асудзіў як ілжывую і неабдуманую прапанову, што падтрымлівала “законнасць сакрамантальнага вызнання грахоў лістом або праз пасярэдніка пры адсутным спаведніку і атрыманне адпушчэння ад таго ж адсутнага спаведніка”. 27 мая 2001 г. біскуп Патрык Фолі, старшыня Папскай рады па сродках масавай камунікацыі, падкрэсліў, што сакрамант пакаяння заўсёды павінен цэлебравацца “падчас асабістай сустрэчы”, і што споведзь праз сродкі масавай камунікацыі не з'яўляецца сапраўднай.

Больш за тое, 20 сакавіка 2020 года, у самы цяжкі перыяд пандэміі каранавіруса, прэлат Кшыштаф Нікель, рэгент Апостальскай Пенітэнцыярыі, на пытанні “Ці можна ў існай надзвычайнай сітуацыі лічыць тэлефон або электронную пошту прыдатнымі інструментамі для споведзі? Ці можна ў некаторых выпадках спавядацца без прысутнасці святара, унутрана і непасрэдна перад Богам?”, адказаў: “Сакрамантальная споведзь не можа адбывацца па тэлефоне, электронный пошце або з дапамогай іншых сродкаў з прычыны, звязанай з ахoвай сакрамантальнай таямніцы. І перш за ўсё неабходная фізічная прысутнасць пенітэнта”. Рэгент Апостальскай Пенітэнцыярыі растлумачыў: “З іншага боку, праз гэтыя сродкі масавай камунікацыі святар можа даць вернікам карысныя духоўныя парады, суцешыць або падтрымаць духоўна, але не даваць сакрамантальнага адпушчэння”.

Што тычыцца магчымасці “ўнутранай споведзі перад Богам”, без прысутнасці святара, то Касцёл навучае, што адзіным звычайным спосабам прымірэння вернікаў, якія ўсведамляюць цяжкі грэх, з Богам і з Касцёлам, з'яўляецца індывідуальная і поўная споведзь з індывідуальным адпушчэннем грахоў [удзеленым святаром] (Reconciliatio et paenitentia, 33).

Што датычыць другой часткі Вашага пытання, то Кодэкс Кананічнага Права ў 2 параграфе 983 канона ў выпадку, калі пенітэнт знаходзіцца за мяжой і не ведае мовы той краіны, дзе ён знаходзіцца, дазваляе паспавядацца праз асобу перакладчыка: “Захоўваць таямніцу [споведзі] павінен таксама і перакладчык, калі такі прымаў удзел, і ўсе іншыя асобы, якія тым ці іншым чынам даведаліся аб грахах са споведзі”.

# Дзеясловы з суфіксамі -ірава- (-ырава-) і -ава- (-ява-) у сучаснай беларускай мове

*Працяг. Пачатак – у мінулым нумары*

**У папярэднім нумары мы сціслa апісалі праблему, якая паўстае пры выкарыстанні ў сучаснай беларускай мове дзеясловаў з пазначанымі вышэй фармантамі. Таксама мы акрэслілі некаторыя тэарэтычныя аспекты дадзенага пытання, прывялі меркаванні аўтарытэтных лінгвістаў. Сёння ж прааналізуем мэтазгоднасць ужывання ў нашай мове дзеясловаў з суфіксамі -ірава- (-ырава-) і -ава- (-ява-) на канкрэтных прыкладах.**

**■ Юрась Бабіч – кандыдат філалагічных навук**

Адным з асноўных крытэрыяў мэтазгоднасці ўжывання таго ці іншага фарманта з'яўляецца яго частотнасць на старонках перыядычных выданняў. Бо сродкі масавай інфармацыі надзвычай хутка рэагуюць на ўсе змяненні, што адбываюцца ў мове ў пэўны перыяд, адлюстроўваюць яе аб'ектыўны стан. Мова СМІ сёння адыгрывае найважнейшую ролю ў працэсе замацавання тых ці іншых лінгвістычных фактаў. І мы можам канстатаваць імклівае пашырэнне сферы і частотнасці выкарыстання суфікса *-ава–* (*–ява-*) у друку.

Дынаміка словаўжывання ўказвае сёння на высокую прадуктыўнасць гэтага фарманта ў публіцыстычным дыскурсе. Возьмем мікракантэксты з розных медыяў за апошнія дзесяць гадоў. Так, газета “Звязда” піша: *Міністр, які таксама трапіў у “чорны спіс”, не стаў* ***каментаваць*** *факт свайго ўключэння ў яго* (3.02.11); *Жылфонд перастане* ***субсідавацца*** *дзяржавай...* (28.04.12); *Цяпер* ***адрэпетаваць*** *ЦТ можна і на камп'ютары!* (29.01.13); *Спачатку ягады* ***сартуюць****, мыюць, засыпаюць цукрам...* (18.06.13).

Актыўна выкарыстоўваюцца дзеясловы на *–ава-* (*–ява-*) у розных граматычных формах і на старонках “Нашай нівы”: *Першая такая гарадская электрычка пачне* ***курсаваць****... у другой палове 2011 года* (30.03.11); *Падпольная арганізацыя...* ***базавалася*** *ў Наваградку і дзейнічала ў 1946–1947 г.г.* (31.08.11); *Калі ў Еўропе* ***апеpуюць*** *лічбамі 1–3% гадавых, то ў нас — нашмат большымі (*14.09.11).

Для аб'ектыўнасці карціны — пару кантэкстаў з асабовымі формамі іншамоўных дзеясловаў без элемента *–ір-* з іншых выданняў: *Забароненыя сходкі* ***маскуюцца*** *пад святочныя гулянні* (Новы час, 28.01.11); ***Пракаментуем*** *і некаторыя канкрэтныя правілы згаданага алгарытму* (Наша слова, 23.03.11).

Прыкладаў можна прыводзіць яшчэ шмат. Адзначым, што зараз усё часцей ужываюцца ў мове формы дзеясловаў кшталту **капіяваць**, **масажаваць прадусаваць**, **рэпетаваць**, **сканаваць**, **скандаваць** і інш. А словаформы накшталт **тэставаць** або **каментаваць** паступова выцясняюць адпаведныя калькі з расейскай мовы з суфіксам *–ірава-*.

Пры дапамозе суфікса *–ава-* (*–ява-*) могуць утварацца дзеясловы, якія паказваюць на прафесію або спецыяльнасць таго, хто выконвае дзеянне, а таксама характарызуюць людзей паводле іх паводзін, сацыяльнага становішча, узаемаадносін, занятку: **сталяраваць**, **майстраваць**, **патруляваць**, **пілатаваць**, **эквілібраваць**, **паразітаваць**, **сімуляваць**, **варагаваць**, **гасцяваць** і інш. Дарэчы, прыгадаем у гэтым шэрагу і наватворы з мастацкай літаратуры: **зухаваць** –'праяўляць спрыт, ліхасць' (Янка Брыль), **пракаваць** — прадказваць штосьці, выступаць пракам (Кузьма Чорны), **шпікаваць** — сачыць за кімнебудзь, віжаваць (Іван Навуменка) і інш.

Дзеля аб'ектыўнасці адзначым, што некаторыя лінгвісты не вітаюць выкарыстанне ў нашай мове падобных формаў, матывуючы гэта цяжкасцю размежавання лексічнага значэння слова ў пэўных выпадках. Напрыклад, **газаваць** — *“павялічваць хуткасць машыны”* і *“насычаць вадкасць газам”* або **фармаваць** — *“надаваць чаму-небудзь якую-небудзь форму пры апрацоўцы”* і *“штосьці выпрацоўваць, стварaць, арганізоўваць”*. Проста ў падобных сітуацыях мы маем справу са звычайнай аманіміяй. Ніхто ж не ставіць пад сумнеў выкарыстанне ў нашай мове, напрыклад, назоўніка **каса** толькі таму, што ён мае не менш за чатыры значэнні. Або назоўніка **летнік**, які, паводле Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы мовы, мае тры значэнні. Таму і аналізаваныя намі сёння дзеяслоўныя формы на *–ава-* (*–ява-*) таксама варта ўспрымаць у пэўных выпадках як амонімы. І не прытрымлівацца штучных, неўласцівых нашай мове дэрыватаў. Бо напісанне іншамоўных дзеясловаў праз *–ава-* (*–ява-*) не змяняе лексічнага значэння гэтых асноў.

Можна сцвярджаць, што запазычаныя дзеясловы ў сучаснай беларускай мове ўсё часцей афармляюцца з дапамогай суфікса *–ава-* (*–ява-*). Гэта пацвярджаюць і тэрміналагічныя слоўнікі, даведнікі, створаныя ў 1991–1994 гадах, і дыскурс сродкаў масавай інфармацыі, і вусная маўленчая практыка. Выкарыстанне адмысловых беларускіх словаўтваральных сродкаў робіць нашу мову яшчэ больш мілагучнай, спрыяе захаванню нацыянальных моўных традыцый, павышае агульную культуру маўлення.

### *Ваша Эксцэленцыя!*



*Прыміце шчырыя віншаванні ад Айцоў Сальватарыянаў, Сясцёр Эўхарыстак і ўсіх вернікаў Браслаўскай парафіі з нагоды чарговай гадавіны прыняцця біскупскай сакры!*

*Няхай Божая ласка дапамагае Вам у цяжкасцях, каб Вы маглі выконваць сваю паслугу як настаўнік веры, які штодзённа чуе заклік Хрыста: "Плыві на глыбіню!"*

### *Паважаная рэдакцыя!*

*З студзеня адзначыў дзень нараджэння пробашч нашай Верхнядзвінскай парафіі* ***ксёндз Аляксандр Грыцкевіч.***

*З гэтай нагоды хочацца ад усёй нашай каталіцкай супольнасці павіншаваць святара з адметнай асабістай датай і падзякаваць яму за плённую працу на карысць Богу і людзям!*

*Ксёндз Аляксандр узначальвае Верхнядзвінскую парафію шэсць гадоў, якія сталі часам развіцця і ўмацавання касцёла на нашай зямлі. Святар вельмі энергічны і рухавы, поўны новых ідэй і разам з тым – прыхільнік найлепшых традыцый каталіцкай веры. Ён умее згуртаваць людзей на добрыя справы, нястомна адстойвае прынцыпы веры, справядлівасці і хрысціянскай маралі.*

*Пробашч уважліва ставіцца да вернікаў і іх патрэбаў, шмат працуе дзеля ўмацавання духоўнасці на нашай зямлі, уводзіць новыя прыгожыя звычаі. Многа ўвагі надае дзецям і моладзі, праводзіць з імі "Канікулы з Богам", ходзіць у падарожжы, выхоўвае найлепшыя духоўныя якасці. А школа міністранта, якую праходзяць у ксяндза Аляксандра маладыя людзі, лічыцца, бадай што, самай адметнай і плённай у дыяцэзіі.*

*Пісьменныя і павучальныя казанні святара на прыгожай беларускай мове таксама вылучаюцца асаблівай красамоўнасцю, глыбінёй і кранаюць душы людзей.*

*Мы сардэчна дзякуем айцу Аляксандру за самаадданую службу і жадаем плёну ў працы і адметнага святарскага жыцця! І надалей будзем усебакова падтрымліваць яго ініцыятывы і маліцца, каб Бог адарыў святара здароўем і сілай для працы, благаслаўляў ва ўсіх пачынаннях, вёў шляхам узрастання ў веры і мудрасці. Каб Божая Маці атуляла нашага пробашча сваёй міласэрнасцю і дабрынёй! Каб верхнядзвінская зямля стала для яго роднай і плаціла за службу шчырай любоўю і шанаваннем!*

***З павагай, вернікі Верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны* ***ксёндз-дэкан Ян Пугачоў****! Апостальскі рух "Маргарытка" з касцёла Перамянення Пана ў в. Германавічы віншуе Вас са святам Божага Нараджэння!*

*Жадаем Вам пастырскай мудрасці, моцнага здароўя, сілы і Божай ласкі на кожны дзень, бязмежнай міласэрнасці! Асабліва ў дзень Божага Нараджэння жадаем Вам шчасця, радасці, супакою і святла Бэтлеемскай зоркі!*

*Мы Вас любім і молімся за Вас!*

***Вернікі з вёсак Германавічы і Сталіца***

### *Хвала Хрысту!*

*Шчыра віншую* ***ксяндза Віктара Місевіча і працоўны калектыў "Каталіцкага Весніка"*** *са святам Божага нараджэння і Новага года!*

*Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у працы і всёлага жыцця!*

***З павагай, Вільгельм Драгун (Варапаева)***

### *Хвала Хрысту!*

*Паважаны* ***рэдакцыйны калектыў****! Прыміце сардэчныя віншаванні са святамі Божага Нараджэння і Новым годам!*

*Няхай Вас ніколі не пакідае вера ў лепшае, а ўсе планы, задумкі і мары збудуцца! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту, Божай ласкі і душэўнага спакою! Няхай прымножацца набыткі мінулага году!*

***З найлепшымі пажаданнямі, Нэлла Лось***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*З Днём нараджэння (31 студзеня), шаноўны* ***ксёндз Юрый Жаўнаровіч****!*

*Хай рака Вашага лёсу цячэ заўсёды па шчаслівым рэчышчы! Хай злыя вятры ніколі не б'юць Вам у твар, а лагодны цёплы ветрык заўсёды пяшчотна гладзіць Вам спіну! Хай лёс ніколі не капае на Вас горкімі слязамі з чорных хмар, а сэрца ад крыўды ніколі не есць Вашыя пачуцці! Хай не знікае Ваша цярплівасць, не пакідаюць Вас сілы, будзе моцным Ваша здароўе, ва ўсім суправаджае Вас поспех! Заставайцеся фізічна моцным, духоўна багатым, душэўна шчаслівым! Хай вядзе Вас Госпад па сваіх, Божых, шляхах!*

*Дзякуем Вам за ахвярную працу, за шчырую малітву і адданасць цудоўнаму дару святарства!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з в. Ахрэмаўцы (Браслаўскі р-н)***

### *Хвала Хрысту!*

*Ад шчырага сэрца* ***ксяндзу Юрыю Жаўняровічу*** *з нагоды дня нараджэння дасылаем свае віншаванні! Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці на кожны дзень і поспехаў у душпастырскай паслузе!*

*Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы заступнік заўсёды апякуюцца Вамі, а Анёлахоўнік чувае і дапамагае годна пражыць кожны дзень! Няхай на дарозе, якую ўказаў Бог, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, а Святы Дух, жывы агонь якога палымнее ў Вашым сэрцы, няхай будзе бясконца шчодры на свае дары!*

*Жадаем шмат радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на ўсё жыццё! Няхай міласэрны Бог благаслаўляе Вашых бацькоў! Шчасці, Божа!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Паважаны* **ксёндз Юрый Жаўняровіч!**

*Прыміце нашыя самыя шчырыя пажаданні – вялікай ласкі Пана і апекі Маці Марыі для Вас з нагоды Дня нараджэння!*

*Хай сонейка Вас саграване,*
*Хай ветрык пяшчотны лагодзіць!*
*Ахоўнік-анёл хай над Вамі чувае,*
*А Божая ласка з нябёсаў сыходзіць!*

***Супрацоўнікі Ахрэмаўскага сельсавета***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Даната Сенькавец** *(Сенькаўцы),* **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына),* **Лія Мацюшонак** *(Прошкава),* **Марыя Юрык** *(Глыбокае),* **Аляксандра Кордас** *(Глыбокае),* **Міхаіл Дубраўскі** *(Нагаўкі),* **Яніна Рагіня** *(Муцеўшчына),* **Ядвіга Жолнер** *(Муцеўшчына),* **Часлава Паўлючонак** *(Студзяніца),* **Жана Юрык** *(Глыбокае),* **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае),* **Эма Роўда** *(Новалукомль),* **Нэла Сініцкая** *(Глыбокае),* **Валянціна Пятрова** *(Мёры),* **Уладзімір Баравік** *(Мёры),* **Кацярына Баравік** *(Мёры),* **Алена Лаўрыновіч** *(Мёры),* **Валянціна Рыбак** *(Гомель),* **Гертруда Блышко** *(Глыбокае),* **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае),* **Галіна Несцяровіч** *(Івянец),* **Дзіяна Лапушынская** *(Коўзаны),* **Марыя Гарачка** *(Шаркаўшчына),* **Алена Дзядова** *(Навагрудак),* **Антон Жменчуроўскі** *(Уліна),* **Іваноўская К.К.** *(Ярэва),* **Марыя Сварцэвіч** *(Паставы),* **Ядвіга Трайко** *(Карасіна),* **парафіяне з Браслава, Вярцінская М.Б.** *(Вярцінскія),* **Леакадзія Шырэй** *(Навасёлкі),* **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці),* **Валянціна Падгайская** *(Паставы),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Марыя Новік** *(Зорка),* **Ірэна Ананьева** *(Верамееўка),* **Іван Кіслы** *(Швакшты),* **Людміла Сушко** *(Докшыцы),* **Вільгельм Драгун** *(Варапаева),* **Іосіф Гаеўскі** *(Прудцы),* **Голуб Л.** *(Дуброўшчына),* **Гэлена Рачынская** *(Друйск),* **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына),* **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль),* **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы),* **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны),* **Марыя Найловіч** *(Заслаўль),* **Вера Беганская** *(Жары),* **Алена Карневіч** *(Ніўнае),* **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў),* **Людміла Страчынская** *(Івянец),* **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост),* **Зенона Алькснін** *(Браслаў),* **Дулінская Т.І.** *(Вазоўнікі),* **Грэцкая С.І.** *(Вазоўнікі),* **Ганна Швед** *(Людвінова),* **Марыя Шляга** *(Драгічын),* **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева),* **Андрэй Яркевіч** *(Ашмяны),* **Яніна Шэнда** *(Зорка),* **Тэрэза Каптур** *(Пагошча),* **Алена Сакалоўская** *(Павяцце),* **Давыдзенак Л.П.** *(Усцье),* **Яніна Дулінец** *(Савуткі),* **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава),* **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца),* **Часлаў Юршэвіч** *(Мількі),* **Алена Емельянава** *(Дунілавічы),* **Эма Сцяпанава** *(Сталіца),* **Зінаіда Жук** *(Падсвілле),* **Тамара Супко** *(Цешалава),* **Таццяна Малецкая** *(Мёры),* **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры),* **Станіслаў Вышадка** *(Завараты),* **Геня Ермаковіч** *(Завараты),* **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае),* **Лукашэвіч М.Д.** *(Паставы),* **Хаданёнак В.В.** *(Сталіца),* **Петухоўскі А.С.** *(Бальшавік),* **Шкецік Г.Л.** *(Верхнядзвінск),* **Крымская К.І.** *(Навапалацк),* **Новік М.В.** *(Зорка),* **Эмілія Стакла** *(Бігосава),* **Волк Я.Э.** *(Паставы),* **Рудак Д.І.** *(Полацк),* **Бугаева Э.Н.** *(Лынтупы),* **Шумская А.А.** *(Навапалацк),* **Лубінская Я.Ф.** *(Вілейка),* **Русецкая Г.М.** *(Нясвіж),* **Бранс Б.І.** *(Браслаў),* **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль),* **Рулевіч Т.І.** *(Браслаў),* **Пятліцкая С.І.** *(Баранавічы),* **Козел Э.Ю.** *(Докшыцы),* **Ільіч Д.Т.** *(Ілава),* **Альхіменак В.В.** *(Докшыцы),* **Шэнда Я.Ю.** *( Зорка),* **Швед А.І.** *(Зорка),* **Зайцава С.В.** *(Дунілавічы),* **Аляксеева Э.Ф.** *(Дунілавічы),* **Смулько Т.А.** *(Зорка),* **Павучонак Т.Н.** *(Шаркаўшчына),* **Алейдзан Я.А.** *(Браслаў).*

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Крэдыт

У наш час многім даводзіцца звяртацца ў банк па крэдыт. Бяруць крэдыт на навучанне, на вяселле, на будаўніцтва жылля, на набыццё аўто і гэтак далей. Людзі ўжо прызвычаіліся жыць у крэдыт.

Галоўны вораг чалавека, бацька хлусні, вырашыў і тут падмануць легкадумных. Ён запрашае ў свой "банк", выкарыстоўваючы слоганы "Прыгожа жыць не забароніш!", "Ні ў чым сябе не абмяжоўвай!", "Для дасягнення мэты ўсе сродкі годныя!". І многія звяртаюцца да яго, бо прапануе ён уладу, багацце, кар'еру, задавальненні, адносіны без абавязкаў і многае іншае. Гэты "банкір" заключае з чалавекам вельмі "выгодную" дамову: выбірай для сябе ўсё прапанаванае, карыстайся, а ў канцы жыцця заплаціш усяго толькі 1 у. а. (адну ўмоўную адзінку). Чалавек з радасцю згаджаецца, бо збіраецца жыць яшчэ доўга, ды і цана ж зусім мізэрная.

І амаль ніхто не задумваецца, што ў.а. (умоўная адзінка) – душа чалавека.

## Маці і дзеці

Жыла сям'я. Звычайная вясковая сям'я: муж, жонка і чацвёра дзетак. Бацька працаваў у калгасе, а маці займалася дзецьмі і хатняй гаспадаркай.

Дачушкі закончылі вясковую школу, падаліся вучыцца ў горад, потым выйшлі замуж. Сын заставаўся з бацькамі, бо быў невылечна хворы. Праз нейкі час бацька захварэў і памёр. А маці яшчэ шмат гадоў даглядала сына. Пасля смерці сына яна засталася адна, занемагла.

Дочкі вырашылі забіраць маці да сябе па чарзе. Так прайшло некалькі месяцаў. Жанчына пагасціла ва ўсіх дачок. А потым сёстры не змаглі дамовіцца, чыя чарга даглядаць маці, і прывезлі яе зноў у вясковую хату, пад апеку сацыяльнага работніка.

Іншага выйсця няма?

## Бацькава навука

Неяк адзін святар з вялікай любоўю і ўдзячнасцю дзяліўся ўспамінамі пра сваіх бацькоў. Яны выхоўвалі сямёра дзяцей, для кожнага знаходзілі час і належны падыход, хоць цяжка працавалі, мелі вялікую гаспадарку. Бацькі з маленства прывучалі дзяцей да працы, вучылі думаць, прымаць адказнасць за свае ўчынкі, пераадольваць цяжкасці.

Летам трэба было палоць буракі, а ўчастак пад іх быў адведзены вялізны, рады былі метраў па трыста. Будучы ксёндз, а тады яшчэ школьнік, сказаў бацьку: "Тата, што хочаш са мной рабі, але я не змагу прапалоць гэты рад!" Тады бацька яму параіў: "А ты, сынок, адмярай па дзесяць крокаў, прапалі і адпачні, пакупайся, рэчка ж побач. А потым далей працуй і памятай, што вочы баяцца, а рукі робяць". Хлопец прыслухаўся да бацькавай парады і з лёгкасцю прапалоў адведзены яму ўчастак буракоў.

Бацькава навука дапамагае святару і па сённяшні дзень. А мне гэтая гісторыя таксама запала ў памяць. І калі хочацца адразу здзейсніць штосьці вялікае, я прыпамінаю яе.

*Алена Пажога.*

# Успамінаючы пачатак...

**24 снежня 2021 года вернікі сабраліся ў касцёле Сэрца Езуса ў аг. Крулеўшчына ў чаканні свята Божага Нараджэння.**

**Генуэфа Парневіч** *(аг. Крулеўшчына)*

Пастэрка павінна была пачацца а 21 гадзіне. Дзякуючы руплівасці Алены Конан і Ліліі Кімстач прыгожа ўбрана святыня. Зіхацяць, пераліваюцца рознымі агеньчыкамі ланцужкі-гірлянды на сасновых галінках уздоўж бакавых сцен, на бакавых алтарах. Каля галоўнага алтара на елачках размешчаны рознакаляровыя электрычныя гірлянды, якія ствараюць своеасаблівы святочны настрой. Хораша, з густам аздоблена стаенка. Светла, утульна, прыгожа ў храме. Засяроджаныя людскія твары. Радасць чакання, радасць сустрэчы з Дзіцяткам Езусам у сэрцах вернікаў.

У такія ўрачыстыя моманты мне заўсёды ўспамінаецца далёкі 1994 год. У ліпені 1994 года ў Крулеўшчыну прыехаў ксёндз-місіянер Ян Фібэк. Адразу ж пачалося адраджэнне рэлігійнага жыцця. Кожную нядзельку мы маліліся пад адкрытым небам на месцы разбуранай святыні. Нясцерпна горача было тым летам, але людзі з затоеным дыханнем лавілі кожнае слова святара, бо святая Імша была для нас як глыток свежага паветра. Пазней, калі на вуліцы стала холадна, маліліся ў "чырвоных кутках" розных арганізацый.

У верасні 1994 года па рашэнні райвыканкама каталіцкай парафіі перадалі пусты будынак спартыўнай залы былой мясцовай школы. Але ў ім цэлымі аказаліся толькі страшэнна абшарпаныя сцены. З вялікім энтузіязмам і натхненнем узяліся людзі за рамонт будучага касцёла. Нельга было без слёз глядзець, як пажылыя жанчыны і мужчыны стараліся прымаць самы непасрэдны ўдзел у працы, прынасілі значныя сумы ахвяраванняў са сваіх сціплых пенсій.

І ўжо 24 снежня таго ж года адправілі першую святую Імшу. Было вельмі холадна, змрочна, няўтульна, але на вочы вернікаў набягалі слёзы радасці, бо ў нас было свята Божага Нараджэння, з намі быў Езус. Дзякуючы грашовым ахвяраванням людзей, некаторай дапамозе з-за мяжы, мясцовым арганізацыям, а таксама самога святара Яна Фібэка некалі разбітаму будынку змаглі надаць выгляд святыні. Мы, парафіяне, нізка схіляем галовы з вялікай удзячнасцю ўсім святарам-місіянерам, сёстрам законным, якія прыехалі несці Божае слова ў наш край!

Потым пэўны час у нашай парафіі працаваў айцец Марэк Пасют. Дзякуючы ягонаму вытанчанаму густу і залатым рукам майстроў быў зроблены галоўны алтар, пабудаваны ўнутраныя калоны, выдатна аздоблена столь, заменены вокны.

Да канчатковага належнага стану давесці наш храм давялося ксяндзу Юрыю Бараўнёву, які мае ад Бога здольнасці мастака-архітэктара. Да касцёла звонку зрабілі дабудову, што надало святыні яшчэ больш велічны выгляд.

Дарэчы, вось ужо шаснаццаць гадоў у трох парафіях наш святар, кс. Юрый Бараўнёў, абвяшчае Божае слова і для ўсіх вернікаў з'яўляецца сапраўдным духоўным настаўнікам.

**БУДЬ ВОВРЕМЯ!**
Приходи, по крайней мере, за 10 минут до того, как начнется Богослужение

**УДЕЛИ БОГУ ВСЕ СВОЁ ВНИМАНИЕ**
Господь непрестанно заботиться о тебе. Будь с Ним на все 100% хотя бы здесь

**ПОЙ... ДАЖЕ ЕСЛИ ТЫ НЕ В НАСТРОЕНИИ.**
Не волнуйся, если нет таланта к пению; у большинства нет. Прославляй, как умеешь!

## ШЕСТЬ СПОСОБОВ ПОЛУЧИТЬ МАКСИМУМ ОТ СВЯТОЙ МЕССЫ

**МАТЕРЬ-ЦЕРКОВЬ НУЖДАЕТСЯ В ТЕБЕ**
Всегда есть потребность в каком-то служении или дарах. Узнай и помоги, если сможешь!

**НЕ ОТКАЗЫВАЙ СЕБЕ В «БИЗНЕС-КЛАССЕ» :)**
Садись в первых рядах от алтаря. Это поможет тебе не отвлекаться

**ИСПОЛЬЗУЙ ВСЕ ВОЗМОЖНОСТИ**
Стань ближе к Господу, молясь, слушая Его Слово и приступая к Причастию

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Калі і як быў напісаны Стары Запавет? Чаму ён сёння важны для нас?

**“Адкажыце, калі ласка, на пытанне: “Калі і як быў напісаны Стары Запавет? Чаму ён сёння важны для нас? Дзякуй вялікі за адказ”.**

**Ваш пастаянны чытач Ян**



– Стары Запавет (46 кніг) быў напісаны прыкладна паміж X і I стагоддзямі да н.э., Новы Запавет (27 кніг) – у 50-100 гг. н.э.

Назвы “Стары Запавет” і “Новы Запавет” паходзяць ад лацінскага *Anticum Testamentum* і *Novum Testamentum.* Пра якія запаветы яны гавораць?

Стары Запавет – гэта запавет, які быў заключаны паміж Богам і ізраільскім народам на гары Сінай пры пасярэдніцтве Майсея (Зых 19-20). Тады ізраільскі народ паабяцаў быць верным Божаму закону (дзясяці запаведзям), што ў такім выпадку было б знакам і ўмовай запавету. З іншага боку, Бог асаблівым чынам стаў клапаціцца пра гэты народ.

А Новы Запавет Езус заключыў на крыжы. Запавет, заснаваны на ахвяраванні Сябе Пана нашага за грахі ўсіх людзей, усіх часоў. Чалавек быў адкуплены, і брамы раю адчыніліся. Тут варта адзначыць, што гэты запавет быў абвешчаны ўжо прарокам Ераміем (Ер 31,31-34), які жыў на мяжы VII і VI стагоддзяў да н.э.

Такім чынам, розніца паміж Старым Запаветам і Новым Запаветам у асноўным заключаецца ў тым, што Стары Запавет паказвае дзеянне Бога ў ізраільскім народзе (гісторыя збаўлення), адначасова абвяшчаючы прыход Месіі – новага Караля (Езуса Хрыста). З іншага боку, Новы Запавет паказвае нам выкананне таго, пра што мы чытаем у Старым Запавеце. Значыць, Новы Запавет без ведання Старога будзе для нас незразумелы, бо там яго карані.

**На чым была напісана Біблія?**

Цяпер вернемся да спосабу кампанавання і адпаведна да часу з'яўлення Старога Запавету.

У габрэйскай традыцыі Стары Запавет дзеліцца на тры часткі: Закон (гбр. назва Тора), Прарокі (Невіім) і Псалмы (Кетувім). Такім чынам, назва Святога Пісання на старажытнагабрэйскай мове паходзіць ад першых літар назваў гэтых трох частак – Танах. Езус кажа ў Евангеллі, што ўсе тры часткі Старога Запавету сведчаць пра Яго: “Усё, што напісана пра Мяне ў законе Майсея, прарокаў і псальмах, павінна збыцца” (Лк 24,44).

Увогуле са словам “Біблія” ў нас асацыюецца ўяўленне аб адной вялікай кнізе, якая складаецца як са Старога, так і Новага Запаветаў. Але па сутнасці гэта не адна кніга, а цэлы, строга вызначаны Касцёлам зборнік святых кніг, напісаных у розны час, у розных месцах і з рознымі мэтамі і рознымі, аднак боганатхнёнымі аўтарамі. Варта адзначыць, што тэрміны “сэфер” (гбр.) і βίβλος (грэч) згодна з філалагічным аналізам даюць нам уяўленне пра матэрыял, які ў старажытнасці ўжываўся для пісання, і на падставе чаго, такім чынам, былі напісаны арыгіналы і самыя старажытныя спісы (копіі) святых кніг.

Так, габрэйскія кнігі, відавочна, пісаліся пераважна на пергаменце, г.зн. на вычышчынай і выпрасаванай скуры, бо слова “сэфер” паходзіць ад гбр. дзеяслова “сафар”, які азначае “галіць”, “чысціць” скуру ад валасоў. Грэцкія ж аўтары, верагодна, пераважна пісалі на папірусе, г.зн. на спецыяльна апрацаваным лісці адмысловай егіпецкай расліны. Слова βίβλος або βύβλος першапачаткова значыць “папірус”, адсюль – папірусны скрутак або "кніга".

Гэтае калектыўнае абазначэнне Святога Пісання адным зборным імем – “Біблія,” – несумненна, існавала ўжо і ў старазапаветны перыяд. Так, у сваёй сапраўднай грэцкай форме τα βιβλια сустракаецца ў першай Макавейскай кнізе (1 Мак 12,9.90), а адпаведны гэтаму габрэйскі пераклад дадзены ў прарока Данііла (Дан 9,2), дзе дакументы Святога Пісання абазначаны як “кнігі”, дакладней – пэўныя вядомыя ўсім кнігі, бо суправаджаюцца артыклем “га” (гбр. ה). Адсюль можам вызначыць часавы тэрмін, да якога Стары Запавет ужо функцыянаваў як Святы тэкст Божага народа. А гэта прыкладна канец II – пачатак I стагоддзяў да н.э. У той жа час, калі натхнёныя аўтары запісвалі першыя словы Біблії, дык гэтага не ведае ніхто, апроч самога Аўтара, які праз зямных аўтараў пажадаў даць Сваё аб'яўленне чалавеку.

> **Галоўная рыса, якая адрознівае Святое Пісанне – “Біблію” – ад іншых літаратурных твораў і якая надае яму найвышэйшую сілу і бясспрэчны аўтарытэт, – гэта боганатхнёнасць.**

Пад ёй мы разумеем тое звышнатуральнае, боскае асвячэнне, якое, не знішчаючы і не абмяжоўваючы натуральныя здольнасці чалавека, засцерагала іх ад тэалагічных памылак, адкрываючы такім чынам спрадвечныя Божыя таямніцы. Іншымі словамі, гэтая боганатхнёнасць кіравала ўсім ходам аўтарскай і пісьменніцкай працы чалавека, дзякуючы чаму апошняе было не проста прадуктам чалавечай дзейнасці, а як бы творам Самога Бога. Па сведчанні святога Апостала Пятра, “ніколі прароцтва не было вымаўлена па волі чалавечай, але вымаўлялі яго святыя Божыя людзі, будучы кіраваныя Духам Святым” (2 П 1,21). У Апостала Паўла сустракаецца нават і само слова “натхнёны” і менавіта ў адносінах да Святога Пісання, калі ён кажа, што “ўсё Пісанне натхнёнае” (θεόπνευστος – 2 Цім 3,16).

Але гэтая “боганатхнёнасць” Святога Пісання і яго аўтараў не знішчала іх асабістых, прыродных асаблівасцяў: вось чаму ў змесце святых кніг, асабліва ў іх выкладанні, стылі, мове, характары вобразаў і выразах мы назіраем значныя адрозненні паміж асобнымі кнігамі Святога Пісання, а тым больш паміж Старым і Новым Запаветамі, што залежыць ад індывідуальных, псіхалагічных і літаратурных асаблівасцяў іх аўтараў.

**Што такое “біблійны канон”?**

Іншай вельмі важнай прыкметай святых кніг Біблії, якая абумоўлівае розную ступень іх аўтарытэтнасці, з'яўляецца кананічны характар адных кніг і некананічны іншых. Грэцкае слова κανών, як і семіцкае “кане” (קנה), азначае першапачаткова “трысняговую палку”, або наогул усякую “прамую палку”, а адсюль у пераносным сэнсе – усё тое, што служыць да выпроставання, выпраўлення іншых рэчаў. У больш агульным сэнсе слова κανων атрымала значэнне “правілы, нормы, узор”. Менавіта так яно ўжываецца, між іншым, і ў Апостала Паўла: “Тым, якія паступаюць па гэтым правіле (κανόνι), супакой ім і ласка, і Ізраілю Божаму” (Га 6,16). Грунтуючыся на гэтым, тэрмін κανων і прыметнік κανονικός, які ад яго паходзіць, пачалі прыкладаць да тых святых кніг, у каторых паводле навукі Касцёла бачылі выраз сапраўднага правіла веры, яе узор. Тэрмін “кананічны” прыкладаецца да тых святых кніг Біблії, якія прызнаны ўсім Касцёлам у якасці боганатхнёных і якія заключаюць у сабе правілы і ўзоры веры. У адрозненне ад кніг “некананічных”, г.зн. хоць павучальных і карысных, але не боганатхнёных, і “апакрыфічных” (αποκρυφος – утоены, таемны), зусім адкінутых Касцёлам. Варта заўважыць, што “кананічнасць” кніг Старога Запавету і Новага такая ж самая.

Трыдэнцкі сабор канчаткова зацвердзіў канон Біблії Каталіцкага Касцёла, які складаецца з 46 кніг Старога Запавету (або 47, калі Пасланне Ераміі, якое ў каталіцкіх выданнях з'яўляецца 6-м раздзелам Кнігі Баруха) і 27 кніг Новага Запавету. Тым самым гэты сабор 8 красавіка 1546 г. закрыў усе дыскусіі ў Касцёле аб кананічнасці кніг абодвух Запаветаў.

Усе кананічныя кнігі Старога Запавету былі напісаны на старажытнагабрэйскай мове, за выключэннем толькі некаторых, невялікіх частак, напісаных на арамейскай мове (Ер 10,11; Дан 2,4–7,28; Эзд 4,8–6,18, 7,12–26), а таксама некаторых напісаных на старажытнагрэцкай мове: 1-2 Макавейскія кнігі; Кніга Мудрасці; Кніга Мудрасць Сіраха; Кніга Товія; Кніга Юдыты; Кніга Баруха.

**Падзел Біблії на раздзелы і вершы**

Нарэшце, трэба заўважыць, што ў старажытным Касцёле не існавала нашага падзелу Біблейскіх кніг на раздзелы і вершы: яны ўсе былі напісаны суцэльным, звязным тэкстам, размешчаным у выглядзе калонак (накшталт вершаў). І калі дзяліліся, то толькі на фрагменты для літургічнага ўжывання. Сучасны падзел на раздзелы мае свой пачатак ад кардынала Стэфана Лангтона, які падзяліў іх каля 1205 г. Такое дзяленне скончыў і зацвердзіў дамініканец Гугдэ-Сен-Шыр, які выдаў сваю канкарданцыю каля 1240 г. А ў палове XVI ст. парыжскі друкар Роберт Стэфан увёў і сучаснае дзяленне раздзелаў на вершы спачатку ў грэкалацінскае выданне Новага Запавету (1551 г.), а затым і ў поўнае выданне лацінскай Біблії (1555 г.), адкуль яно паступова перайшло і ва ўсе іншыя тэксты.

Такім чынам, гэтая кароткая прэзентацыя мела на мэце паказаць важнасць успрымання Біблії як адной боганатхнёнай кнігі, Святога Пісання. Хоць і ў розныя гістарычныя эпохі і рознымі аўтарамі, аднак усё ў кнігах Біблії так павінна ўспрымацца і чытацца, каб урэшце прывяло да вяршыні Божага адкрыцця – асобы Божага Сына, Які стаў чалавекам.

**Літаратура**

“Толковая Библия, или Комментарии на все книги Св. Писания Ветхого и Нового Завета”, Т. 1, ред. А.П. Лопухин. – Санкт-Петербург 1904, с. 3-7.

А. Мень. *Как читать Библию.* Часть первая. – Москва, 2000, с. 49-51.

Э. Янг. *Введение в Ветхий Завет.* – Заокский, 1998, с. 7-15.

И.Ц. Миронович. *Лекции по Священной библейской истории Ветхого и Нового Заветов.* – Санкт-Петербург, 2013, с. 50-66.

И.Павлов, А.Сомов. *“Канон Священного Писания”*, у: *Католическая Энциклопедия*, Т. 2, ред. Г. Цёрох. – Москва, 2005 с. 745-751.

> **Біблія – не адна кніга, а цэлы, строга вызначаны Касцёлам зборнік святых кніг.**

*Кс. Валерый Марціноўскі*
*доктар тэалогії*




Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

**Дарагі сябра. Сёння разам з "Пазнавайкай" будзем рыхтавацца да каляды і даведаемся, што трэба рабіць, калі святар прыходзіць у твой дом.**

**1.** Звычайна, калі чакаем гасцей, старанна прыбіраем свой дом і пакой, такім чынам дапамагаючы бацькам.

**Хутка да цябе таксама завітае святар, таму прыбяры рэчы. На малюнку стрэлкамі пакажы, што куды неабходна пакласці.**



**2.** **Выйдзі насустрач святару і дапамажы яму дабрацца да твайго дома.**



**3.** Разблытай павуцінне і даведайся, як трэба сустракаць святара па калядзе.

Пачынай заданне ад чырвонай кропкі.

Адказ запішы ніжэй




**Адказ:**

___________

**4.** **Разгадай наступную крыжаванку і даведайся, што трэба падрыхтаваць у доме на каляду.**




1.Калі святар прыходзіць на каляду, стол засцілаюць абрусам. Назаві колер, якім павінен быць абрус?

2. Гэта рэч абавязкова павінна быць на стале. Падказка: на ім памёр Езус. Што гэта?

3. На стале павінны быць запалены дзве .... Замест шматкроп'я напішы слова, якое прапушчана

4. Калі ў доме ёсць асвечаная ... , яна таксама можа быць пастаўлена на стол. У крыжаванцы замест шматкроп'я напішы слова, якое прапушчана.

**5.** **Пра што варта памятаць, калі святар будзе знаходзіцца ў тваім доме падчас каляды даведаешся, калі выканаеш наступнае заданне. Запішы словы па парадку ад самай вялікай фігуры да самай маленькай.**




**АДКАЗ:** ______________________________

______________________________

______________________________

*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Ірына Радзевіч***

# Ліст са Слабодкі

**Паважаная рэдакцыя і чытачы газеты "Каталіцкі Веснік"! Ад імя жыхароў аграгарадка Слабодка Браслаўскага раёна запрашаю вас на экскурсію ў касцёл Провіду Божага.**



Вежы святыні бачныя здалёк, бо касцёл пабудаваны на ўзвышэнні. Па шырокай лесвіцы падымемся праз браму на цвінтар. Сярод ружаў, што квітнеюць вясной, летам і восенню, убачым магілы ксяндза – будаўніка касцёла – Юзафа Шымовіча і яго паслядоўніка Яна Юшкевіча.

Касцёл будавалі ў 1901-1906 гадах. Аднак падрыхтоўка пачалася яшчэ ў 1890 годзе – каменяцёсы часалі камяні, у вёсках абпальвалі вапну, нарыхтоўвалі дровы і рабілі цэглу. Кансэкраваны касцёл 19 чэрвеня 1906 года. Двухвежавы трохнефавы храм з апсідай, трансептам і закрыстыямі ўзведзены з цэглы і атынкаваны. Галоўны фасад упрыгожваюць перспектыўны партал і вялікае вакно-ружа. Падобныя ружы ёсць на тарцах трансепта.

Усе дзверы ў касцёл упрыгожвае акоўка – выдатны ўзор дэкаратыўнага мастацтва. Праз цэнтральны ўваход увойдзем у храм. І адразу нас спаткае цуд – роспісы на евангельскія тэмы. Стараннем ксяндза Станіслава Гурскага на сценах карціны апавядаюць пра гісторыю хрысціянства, алтары зззяюць пазалотай. Эстафету ўпрыгожвання і рэстаўрацыі касцёла падхапілі ксяндзы Эдвард Ахрамовіч, Уладзіслаў Пятрайціс, Сяргей Сурыновіч.

З 2013 года пробашчам Слабодкаўскай парафіі з'яўляецца Лешэк Вітвіцкі. Ён кожны дзень служыць святыя Імшы, клапоціцца пра знешні выгляд касцёла, пра здароўе і самаадчуванне вернікаў. Ксяндзу дапамагаюць сёстры-эўхарысткі Ірэна Сапун, Лілія Дарожка, Маргарыта Ларына. Вернікі парафіі вельмі ўдзячныя ім за душэўную дабрыню, за навучанне Божаму слову, за працу на карысць нашых душ.

### Ранак у Слабодцы

Ранак неба фарбуе  
У ружова-бэзавы колер.  
З цемры начной выплывае  
Велічны гмах касцёла.

Вежы яго – як шыі  
Лебедзяў заканых.  
Нефы – нібыта крылы,  
З водаў азёр падняты.

Працай продкаў руплівай  
Зроблены цуд небывалы!  
Каб праз гады нашчадкі  
Ўзносілі Богу хвалу.

Каб праз гады не змоўкнуў  
Велічны хор аргана.  
Молімся мы ў касцёле:  
– Душы выбаў іх, Пане!

*Луцэя Арсюкова*

# Жартуюць святары

**У сённяшнім нумары з чытачамі "Каталіцкага Весніка" добрым настроем і жартамі дзеліцца кс. Вадзім Сурвіла з парафіі ў Войстаме.**



Калі ўносілі ў касцёл фігуру Маці Божай з Фацімы, пробашч звярнуўся да абраза Маці Божай Вострабрамскай, кажучы: "Маці Божая Вострабрамская, паглядзі, Твая сястра з Фацімы прыбыла".



Размаўляюць два калегі:

– Прывітанне! Хочаце пачуць склерозны жарт?

– Вядома, давай тады.

– Прывітанне! Хочаце пачуць склерозны жарт?



Муж да жонкі:

– Не ведаю, які падарунак табе зрабіць?

– Тады чаму б табе проста не спытаць у мяне, чаго я хачу?

– Што ты хочаш?

– Сюрпрыз...



Мама да Пашы:

– Сядай, сынок, і раскажы мне вясёлую гісторыю.

– Праблема ў тым, што я не магу сядзець. Хвілінку таму я расказаў вясёлую гісторыю пра тату...



Гэты непрыемны момант... Ехала ў цягніку, мужык на суседняй паліцы хроп страшна, не даваў заснуць. Так ён мяне дастаў, ну я яго і штурхнула. Праз нейкі час зноў пачаў – штурхнула яго зноў, мацней на гэты раз. Храпіць... Крыху адплюшчыла вока: ён ляжыць і глядзіць на мяне. І тут я разумею, што храпе бабка на паліцы знізу.



# Каляндар на люты

**2** лютага – свята Ахвяравання Пана

**3** лютага – успамін святога Блажэя, біскупа і мучаніка

**5** лютага – успамін святой Агаты, панны і мучаніцы

**8** лютага – успамін святой Жазэфіны Бакіты, панны

**10** лютага – успамін святой Схалястыкі, панны

**11** лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда

**14** лютага – свята святых Кірыла, мніха і Мятода, біскупа, апекуноў Еўропы

**17** лютага – успамін святых сямі Заснавальнікаў закона Слугаў Найсвяцейшай Панны Марыі (сэрвітаў)

**21** лютага – успамін святога Пятра Дам'яна, біскупа і доктара Касцёла

**22** лютага – свята катэдры святога Пятра, апостала

**23** лютага – успамін святога Палікарпа, біскупа і мучаніка



## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

*Рэдакцыя сайта Catholicnews.by*

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – А; 2 – Б; 3 – А; 4 – А; 5 – Б; 6 – А; 7 – В; 8 – А; 9 – А; 10 – А


Каталіцкі ВЕСНІК  
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч  
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык  
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч  
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4  
Заказ 319

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах  
Тыраж 2800 экз.  
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3  
Афсетны друк  
Падпісана ў друк 19.01.2022 г. у 16.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1  
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22  
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.  
Тэл.: 8(029)736-53-07  
e-mail: katalickivesnik@gmail.com  
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь